17 ліпеня 2015 | № 28 (445)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ІДЭІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Францыя ратуе лялек**

стар. 13





# Мае права на існаванне

## Ці абмяжуе ЦВК выбарчыя правы грамадзянаў гэтым разам?



Сяргей ПУЛЬША

Згодна з заканадаўствам, Статкевіч не можа быць зарэгістраваным у якасці кандыдата ў прэзідэнты. Але гэта зусім не азначае, што не мае права на існаванне ініцыятыўная група па ягоным вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты.

Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына катэгарычна адмовіла магчымасць рэгістрацыі ініцыятыўнай групы Мікалая Віктаравіча. У інтэрв'ю «Радыё Свабода» яна паведаміла: «Пакуль ён асуджаны, мы не маем юрыдычнага права аформіць яго як кандыдата ў прэзідэнты. Больш за тое, мы нават не маем права зарэгістраваць яго ініцыятыўную групу. А калі не будзе зарэгістраваная ініцыятыўная група — хто ж тады будзе збіраць подпісы ў яго падтрымку? Такія акцыі, калі яны і будуць праходзіць, адразу становяцца нелегітымнымі», — заявіла Ярмошына.

Лідзія Міхайлаўна, як заўжды, паблытала боб з гарохам, то бок рэгістрацыю ініцыятыўнай групы і рэгістрацыю кандыдата ў прэзідэнты. Канешне, Статкевіч знаходзіцца ў месцах зняволення, але гэта не ёсць, паводле літары закона, падставай для нерэгістрацыі ягонай ініцыятыўнай групы.

Згодна выбарчаму кодэксу, «прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь можа быць абраны грамадзянін Рэспублікі Беларусь па нараджэнні, не маладзейшы за 35 гадоў, які валодае выбарчым правам і пастаянна пражывае ў Рэспубліцы Беларусь не менш дзесяці гадоў непасрэдна перад выбарамі». Паколькі Статкевіч у турме, ён пазбаўлены выбарчага права. Але гэта тычыцца толькі самога Статкевіча.

Што ж да ініцыятыўнай групы, то закон высоўвае да яе толькі адно патрабаванне — не менш за сто чалавек.

Ініцыятыўная група Статкевіча можа быць зарэгістраваная дзякуючы выбарам 2010 года. Тады дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі падаў не ён сам персанальна, як было прапісана ў заканадаўстве, а ягоны прадстаўнік Аляксандр Радзькоў. Пасля гэтага ў ВК былі ўнесеныя змены: падаваць спісы ініцыятыўнай групы дазволілі і «прадстаўніку асобы, што мае намер вылучыцца кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, які ажыццяўляе свае паўнамоцтвы на падставе натарыяльна засведчанай даверанасці».

Зараз нават пашпарт, якога ў Статкевіча, можа быць, і няма, пры рэгістрацыі групы не патрабуецца. Дастаткова «копіі старонак пашпарта, якія пацвярджаюць грамадзянства Рэспублікі Беларусь і рэгістрацыю на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь асобы, якая мае намер вылучыцца кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь».

Варта адзначыць і дзеянні актывістаў, якія ўвесь тэрмін знаходжання Статкевіча за кратамі змагаліся за ягоныя правы. Віцебскі дэмакрат Аляксей Гаўруцікаў на выбарах Палаты прадстаўнікоў у 2012 годзе таксама спрабаваў рэгістраваць ініцыятыўную групу Статкевіча па вылучэнні яго кандыдатам у дэпутаты. Гэтыя групы таксама імкнуліся незарэгістраваць, бо «Статкевіч жа ў турме». Гаўруцікаў пераконваў (і што самае дзіўнае — пераканаў) камісіі, што рэгістрацыя ініцыятыўнай групы — яшчэ не рэгістрацыя кандыдата. «Можна ўявіць сабе такую гіпатэтычную сітуацыю: праз два дні Лукашэнка выпускае Статкевіча з турмы, здымаюцца ўсе абмежаванні



**Людзі маюць права вылучаць таго, хто ім падабаецца**

яго грамадзянскіх правоў. Што тады? Атрымліваецца, што Статкевіч ужо мае права балатавацца, але подпісы за яго вылучэнне збіраць нельга. Так што не трэба блытаць: тое, што Статкевіч у зняволенні, было б контраргументам на этапе рэгістрацыі кандыдата, але не яго ініцыятыўнай групы», — казаў Гаўруцікаў.

Па словах Гаўруцікава, пасля яго тлумачэнняў камісія Віцебская-Чкалаўская акругі №18 на некалькі хвілін здранцвела, абдумваючы пачутае. У рэгістрацыі было адмоўлена на падставе, якую падказаў сам Гаўруцікаў, — у яго не было даверанасці ад Статкевіча.

Але тое, чаго не было ў Гаўруцікава, ёсць у жонкі Статкевіча Марыны Адамовіч. «Мы прадумалі гэтае пытанне», — паведаміла яна.

У тую сітуацыю мусіла ўмешвацца сама Лідзія Ярмошына. З яе словаў, ініцыятыўныя групы Статкевіча не былі зарэгістраваныя, бо ён афіцыйна, праз адміністрацыю турмы, не перадаваў ніякіх лістоў у выбарчыя камісіі, а іншай магчымасці падпісаць дакументы аб рэгістрацыі сваёй ініцыятыўнай групы ў Статкевіча не было.

Звесткі адміністрацыі турмы — гэта наўрад ці дастатковая і законная падстава для нерэгістрацыі ініцыятыўнай групы. Статкевіч мог перадаць дакументы, напрыклад, праз адваката. Альбо на сустрэчы з роднымі.

Акрамя таго, стварэнне ініцыятыўнай групы — гэта не права Статкевіча вылучацца кандыдатам у прэзідэнты. Гэта права людзей вылучаць у прэзідэнты таго, хто ім падабаецца.

# «Мы — за Мікалая Статкевіча!»

**У ініцыятыўную групу па вылучэнні Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты ўвайшлі больш за 1500 чалавек.**

Вядомыя беларусы распавялі пра сваю падтрымку Мікалая, патлумачылі матывы ўваходжання ў яго ініцыятыўную групу і падзяліліся чаканнямі: на якія вынікі сваіх намаганняў яны разлічваюць.

**Зінаіда Бандарэнка, народная артыстка Беларусі:**

— Як чалавек і грамадзянін Беларусі, я лічу сваім абавязкам змагацца за вызваленне Мікалая Статкевіча. Я вельмі спадзяюся на тое, што кампанія па яго вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты ўсё ж такі падштурхне ўладу да таго, каб вызваліць Мікалая. Тое, што выбараў у Беларусі няма, і мы ў іх не верым, вядома даўно. Але чым больш людзей мы аб'яднаем, чым больш мы будзем пра гэта казаць, чым больш мы будзем стукацца ва ўсе дзверы, тым больш верагоднасці, што гэта прывядзе да вызвалення Мікалая Статкевіча.

**Павел Севярынец, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя»:**

— Я асабіста ведаю Мікалая Віктаравіча, ведаю яго як чалавека мужнага; уся Беларусь ужо цяпер ведае яго як героя. Таму што трымацца ў такіх умовах, у якіх ён знаходзіцца, а фактычна гэта катаванні і шматгадовыя здзекі, трымацца, не падпісваць паперу аб памілаванні, стаяць на сваім — для гэтага, вядома, патрэбна велізарная мужнасць. Тая мужнасць, якая так неабходна цяпер усёй Беларусі як узор, як прыклад.

**Аляксей Марачкін, мастак, грамадскі дзеяч:**

— Ёсць людзі, якія крытычна ставяцца да нашай ініцыятыўнай групы і да вылучэння Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты. Яны апраўдваюць сябе тым, што чалавек асуджаны і па законе не мае права абірацца прэзідэнтам. А я лічу, што гэтыя людзі глыбока памыляюцца. Бо сваімі развагамі яны як бы згаджаюцца з тым, што ён асуджаны законна. Я ж разам з усімі, хто ўваходзіць у групу падтрымкі Мікалая Статкевіча, разважаю зусім па-іншаму. Мы сцвярджаем, што ён асуджаны незаконна, што сітуацыя, у якой ён знаходзіцца, гэта гвалт з асобы, з палітычнага дзеяча, які быў арыштаваны ў той момант, калі фармальна выбары яшчэ не былі скончаны.

**Уладзімір Халіп, драматург, публіцыст:**

— Тыя абставіны, у якіх Мікалай Статкевіч і іншыя палітвязні, людзі, да якіх ніколі не было і не магло быць ніякіх прэтэнзій, сядзяць у турме,— гэта дзікунства, з якім не можа пагадзіцца ні адзін нармальны грамадзянін. У якія б вопраткі ні апранаўся цяперашні кіраўнік краіны і як бы яго ні ўспрымалі ў іншых краінах, яго рэжым застаецца самым садысцкім і подлым ва ўсёй Еўропе. Знаходжанне Мікалая Статкевіча ў турме — гэта расправа над ім.

**Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ:**

— Я ўвайшоў у ініцыятыўную групу па вылучэнні Статкевіча, бо лічу, што Мікола павінен стаць кандыдатам у прэзідэнты Беларусі як вылучэнец ад усіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў краіны. І яшчэ, канешне, у знак маёй асабістай павагі да яго. Я падтрымліваю кантакты са шматлікімі прадстаўнікамі штаба па стварэнні ініцыятыўнай групы Статкевіча і надалей буду дзейнічаць згодна з агульным рашэннем.

**Лявон Вольскі, музыка, паэт, мастак:**

— Я падпісаўся за Мікалая, каб маральна падтрымаць яго і Марыну, бо разумею, як ім цяжка, і гэтае блуканне па пакутах цягнецца шмат неацэнных для жыцця гадоў. Мая творчая занятасць пакуль не дазваляе мне «па поўнай праграме» ўдзельнічаць у палітычных ініцыятывах, але выказаць сваё стаўленне, згоду, нязгоду, пратэст альбо падтрымку — гэта я раблю заўсёды.

**Юры Хашчавацкі, кінарэжысёр:**

— Мікалай Статкевіч — гэта чалавек-стоік, які сёння дае нам прыклад таго, як трэба змагацца, як трэба адстойваць свае пазіцыі. Я ўвайшоў у ініцыятыўную групу з вялікай павагі да гэтага чалавека, які з'яўляецца прыкладам мужнасці ў барацьбе са злачыннай уладай. Больш за тое, я лічу вельмі ганаровым для сябе быць у складзе гэтай ініцыятыўнай групы.

**Зміцер Дашкевіч, сустаршыня «Маладога фронту»:**

— Думаю, што ўдзел у ініцыятыўнай групе Мікалая Статквіча — гэта самы лепшы сродак дамагчыся яго вызвалення і вызвалення астатніх палітвязняў. Наша група будзе аказваць грамадскі ціск на Лукашэнку, таму што ўсе гэтыя знешнія ціскі бессэнсоўныя.

**Вольга Завадская, маці зніклага журналіста Дзмітрыя Завадскага:**

— Сваім уваходжаннем у ініцыятыўную групу Мікалая Статквіча я хачу прыцягнуць увагу грамадскасці да таго, што ён з'яўляецца палітвязнем і яшчэ з мінулых выбараў знаходзіцца ў турме. Мне хацелася б, каб на гэта звярнулі большую ўвагу ва ўсім свеце і ў нашай краіне. Пры гэтым нейкіх спадзяванняў на іншых дзеячаў апазіцыі ў мяне няма.

**Паводле Кірыла Жываловіча, gazetaby.com**

# Краіну чакае чарговы расстрэл

Генадзь КЕСНЕР

**Вярхоўны суд 14 ліпеня пакінуў без змяненняў вырак у дачыненні да жыхара Рэчыцы, 21-гадовага Сяргея Іванова. Гомельскі абласны суд прыгаварыў яго да смяротнага пакарання за забойства дзяўчыны, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю. Слова — за кіраўніком дзяржавы, які сваім рашэннем у стане выратаваць злачынцу.**

Як лічыць кіраўнік юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінскага камітэта (БХК) Гары Паганяйла, пакуль у нашай краіне дзейнічае заканадаўства, якое дапускае ўжыванне пакарання ў выглядзе расстрэлу, пры наяўнасці доказаў віны абвінавачанага і, з пункту гледжання суддзі, мэтазгоднасці такога віду пакарання падобныя прысуды (смяротнае пакаранне) будуць выносіцца і надалей.

— І такія прысуды будуць у нас выконвацца, пакуль у Беларусі не будзе ўведзены мараторый на прывядзенне ў выкананне смяротных выракаў, ці смяротнае пакаранне не будзе адменена ўвогуле. Выключэнне расстрэлу як пакарання з'яўляецца ў Беларусі палітычным пытаннем.

Адзначу, што гэта не крымінальна-прававое пытанне, яно не звязана з настроямі ў грамадстве. Гэтае пытанне звязана з тым, што афіцыйны кіраўнік дзяржавы, які мог бы праявіць палітычную волю, змяніўшы сітуацыю, зусім не жадае гэтага рабіць. Улады прыводзяць розныя спасылкі кшталту вынікаў рэферэндуму ў лістападзе 1996 года, дзе выбаршчыкі, маўляў, выказаліся за захаванне ў Беларусі смяротнага пакарання. Але ўсё гэта толькі адгаворкі.

***— Ці ўплываюць расстрэльныя прысуды на крымінагенную сітуацыю ў Беларусі?***

— Зусім не. Як паказвае практыка, за год у нашай краіне выносяцца два-тры расстрэльныя выракі, расстрэльваюць за год двух-трох чалавек. Таму смяротнае пакаранне не ўплывае ні на грамадска-палітычную сітуацыю, ні на што іншае. Але справа ў тым, што сама наяўнасць у заканадаўстве такой меры пакарання для міжнароднай супольнасці з'яўляецца вялікім пытаннем. Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў зараз праводзіць дзесяцігоддзе супраць смяротнага пакарання. Еўропа, за выключэннем Беларусі, фактычна адмовілася ад такой меры пакарання. Некаторыя краіны еўрапейскага кантынента, у заканадаўствах якіх яшчэ і захавалася такая мера пакарання, адмовіліся ад яе прымянення.

Да таго ж, непрымяненне смяротнага пакарання ці наогул яго адмена ў заканадаўстве з'яўляецца ўмовай уступлення ў Савет Еўропы. Гэта абавязковы стандарт, а дзеля яго прыняцця неабходны змяненні ў заканадаўстве. Дарэчы, Беларусь не адклікала сваю заяўку на ўступленне ў Савет Еўропы, але наша кіраўніцтва не жадае выконваць неабходных умоваў для ўступлення ў гэты палітычны клуб, і перш за ўсё не жадае выконваць гэтыя ўмовы кіраўнік дзяржавы.

***— А чаму ў Аляксандра Лукашэнкі няма такога жадання?***

— Лепш бы спытацца ў яго самога, а я магу толькі меркаваць. Як правіла, у Савет Еўропы ўваходзяць краіны з пераважна дэмакратычнай формаю кіравання. У Савеце Еўропы дзейнічаюць цывілізаваныя нормы і стандарты дэмакратыі, звязаныя з выкананнем прынцыпаў вяршэнства права, падзелу ўладаў, незалежнасці суддзяў і судоў і асноўнага прынцыпу — выканання правоў і свабодаў грамадзян.

А наша ўлада акурат дэманструе абсалютнае нежаданне кіравацца гэтымі прынцыпамі. Наадварот, яна іх не выконвае на практыцы і нават парушае і не рэагуе на крытыку, якую выказвае Еўропа з нагоды таго, што адбываецца ў Беларусі ў плане парушэння правоў чалавека.

Кіраўнік дзяржавы вельмі канфрантацыйна настроены ў дачыненні да заходніх краінаў, якія патрабуюць выканання міжнародных пагадненняў у галіне правоў чалавека, ён лічыць, што гэта палітычныя забабоны ды прыдзіркі да нашай улады. Таму маем тое, што маем.

# Адкрыты ліст Алега Трусава Віктару Малочку

**У СМІ з'явілася публікацыя Віктара Малочкі, які жыве ў Салігорску. Ён спрачаецца з маім выказваннем пра тое, што лепей на Беларусі быць патрыётам, чым нацыяналістам.**

Пры гэтым згадваецца і міністр замежных спраў спадар У.У. Макей, які, на думку В. Малочкі, «меў на ўвазе нацыяналізм як нешта дрэннае». Адзначу, што ў савецкіх і нават сённяшніх слоўніках гэтае слова тлумачыцца як цалкам адмоўнае. Таму я раю юрысту Віктару Малочку разгарнуць, напрыклад, «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (2-е выданне, Мінск, 1999 г., с. 381) і прачытаць наступнае: «Нацыяналізм — буржуазная ідэалогія і палітыка, якая зыходзіць з ідэй нацыянальнай перавагі пануючай нацыі і супрацьпастаўлення яе іншым нацыям». «Нацыяналіст — прыхільнік нацыяналізму».

Такім чынам, людзі, якія вучыліся ў савецкіх школах і ВНУ, дакладна ведаюць, што нацыяналізм — страшная з'ява, амаль роўная фашызму. Таму калі некаторыя нашы прыхільнікі з гонарам называюць сябе нацыяналістамі, то яны ў вачах большасці насельніцтва выглядаюць не лепшым чынам і спрыяюць далейшай русіфікацыі грамадства. Таму я прапаную называць усіх прыхільнікаў беларускага адраджэння патрыётамі. Калі ў тым жа слоўніку мы разгорнем старонку 452, то ўбачым наступнае вызначэнне:

«Патрыятызм — адданасць і любоў да сваёй Айчыны, да свайго народа».

«Патрыёт — чалавек, прасякнуты патрыятызмам. Быць патрыётам сваёй радзімы».

Дарэчы, усе прыхільнікі «русского мира» называюць сябе рускімі патрыётамі, а не нацыяналістамі. Хоць на самай справе шмат хто з іх па сутнасці не толькі нацыяналісты ў савецкім разуменні гэтага слова, а самыя што ні на ёсць шавіністы. Дастаткова згадаць, як яны зневажаюць украінцаў, якія мужна бароняць сваю Радзіму. Менавіта ўкраінцы ў дадзеным выпадку і з'яўляюцца сапраўднымі Патрыётамі.

Цяпер хачу адказаць на другое пытанне сп. В. Малочкі: «Ці павінен просты грамадзянін нашай краіны ведаць абедзве дзяржаўныя мовы і ці мае ён права ведаць і размаўляць толькі на беларускай мове?» Сённяшняе заканадаўства, якое вы, шаноўны юрыст, павінны ведаць, дазваляе кожнаму беларускаму патрыёту незалежна ад яго нацыянальнасці размаўляць на тэрыторыі Беларусі і афармляць усе неабходныя паперы толькі па-беларуску. Ніхто не можа вас прымусіць рабіць гэта па-руску. Але і вы, шаноўны Віктар, не можаце прымусіць супрацоўнікаў ДАІ г. Салігорска складаць пратакол на беларускай мове, бо такое, на жаль, наша заканадаўства з 1998 г. Іншая справа, што вы можаце яго не падпісваць да таго часу, пакуль ён не будзе аформлены па-беларуску.

Раю вам і вашаму сыну Аляксандру прынцыпова ва ўсіх выпадках жыцця карыстацца толькі беларускай мовай і, такім чынам, адпавядаць вызначэнню сапраўднага беларускага патрыёта. Было б добра, каб вы свой імпэт накіравалі не на крытыку старшыні ТБМ, а на стварэнне ў Салігорску хаця б аднаго класа ці гімназіі з беларускай мовай навучання. Гэта стала б вашым непасрэдным унёскам у стварэнне беларускай Беларусі.

**З павагай, старшыня ТБМ Алег Трусаў**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Расіі на ўсіх не хопіць

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На тыдні мы даведаліся, колькі просіць Аляксандр Рыгоравіч у Масквы на «падтрымку штаноў». Размова ідзе пра звыклую суму ў 3 мільярды долараў. Пра гэта было агучана на саміце БРІКС і ШАС. Але ці выратуюць нас гэтыя грошы? Хутчэй за ўсё, не. Яны толькі падштурхнуць нас да «грэчаскага сцэнару».**



Масква крышку ашалела ад патрабаванняў, а таму дыпламатычна паабяцала разгледзець пытанне Мінска «ў бліжэйшы час». Адначасова трэба заўважыць, што над такім жа пытаннем ламае галаву і Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця — правапераемнік Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, які выдаваў нам крэдыты ў 2011 годзе. Умовы таго крэдыту мы не выканалі, і нават адмовіліся ад апошняга траншу. Таму шанцы нешта атрымаць у нас ад ЕФСР проста мізэрныя. Але надзея памірае апошняй.

Тры з паловай мільярды долараў мы хочам узяць у Міжнароднага валютнага фонду. Але місія МВФ, якая знаходзілася ў краіне, па-ранейшаму патрабуе гарантый таго, што рэформы будуць праведзеныя, «на самым высокім узроўні». Бо раней выкананне ўмоваў крэдытавання ад МВФ заставалася толькі на паперцы.

А вось Масква пагадзілася толькі не патрабаваць ад Мінска вяртання мінулага доўгу ў агульнай суме 1,3 мільярда долараў, а таксама паабяцала выдаць Беларусі $760 мільёнаў долараў для рэфінансавання адной са старых расійскіх пазык. То бок, жывыя грошы да нас не дойдуць.

Ці дапаможа нам Расія? Наўрад ці. Справа не толькі ў тым, што мы і так па вушы ў пазыках. Справа ў тым, што ў самой Расіі ўжо нестае фінансаў на падтрымку ўласных праектаў і розных «інтэграцыйных» структураў. Занадта ўжо мы зайграліся ў шматлікія інтэграцыі — прыйшоў час зацягваць паясы не толькі беларусам, але і расіянам.

Сімптаматычны прыклад: Эканамічны суд СНД не мае сродкаў, каб у бліжэйшыя месяцы выплачваць зарплаты супрацоўнікам, са скрухай паведаміў старшыня выканаўчага камітэта — выканаўчы сакратар СНД Сяргей Лебедзеў. Паводле яго, у Эканамічным судзе няма грошай, каб у бліжэйшыя месяцы выплачваць заробак супрацоўнікам — а гэта ўсяго 46 чалавек. Лебедзеў дадаў, што некаторыя дзяржавы, у прыватнасці Казахстан і Таджыкістан, адклікалі сваіх суддзяў з Эканамічнага суда СНД. Зараз у складзе суда засталіся толькі суддзі ад Беларусі і Расіі.

Калі Расія (што ўжо казаць пра Беларусь!) не можа выплаціць заробак паўсотні супрацоўнікам эканамічнага суда — то пра якія тры мільярды можа ісці гаворка?

Між тым, я мяркую, што і ў Расіі, і ў МВФ выдатна разумеюць: грошы, выдадзеныя Беларусі на развіццё, будуць проста «праедзеныя», як крэдыты Еўропы праелі грэкі. Бо зараз перад выбарамі сітуацыя з заробкамі ў народа катастрафічная. Нават у будаўніцтве, якое заўсёды лічылася «хлебным месцам», заробкі ўпалі ніжэй плінтуса.

Яшчэ нейкіх 5–7 гадоў таму Беларусь адчувала дэфіцыт будаўнічых кадраў. Ва ўрадзе разглядалі пытанне павелічэння заробкаў у галіне, каб спыніць адток будаўнікоў у Расію і Польшчу. Зараз зарплаты ў сектары адкаціліся на ўзровень ліпеня-верасеня 2012 года. Складанасці ў будаўнічай галіны пачаліся яшчэ ў лістападзе мінулага года, распавядае намеснік дырэктара па працы з персаналам будаўнічай кампаніі «Маналіт Груп» Кацярына Абросімава. «Аб'ёмы будаўніцтва істотна скараціліся, з-за чаго кампаніі сталі пераходзіць на скарочаны працоўны тыдзень, а заробкі будаўнікоў істотна ўпалі», — кажа спецыяліст.

У цэлым па рынку зарплаты, адзначыла яна, у будаўнікоў гэтай зімой заробкі ўпалі на 20%, а ў некаторых кампаніях — да 30–50%. Напрыклад, калі мінулым летам працоўныя кампаніі «Маналіт Груп» атрымлівалі ад 9 да 15 мільёнаў рублёў, то цяперашняй зімой — каля 5 мільёнаў. Такая сітуацыя прымусіла некаторых будаўнікоў, якія прыехалі з рэгіёнаў, пакінуць працу ў сталіцы і вярнуцца дадому, дзе не трэба арандаваць жыллё.

І гэта ў той галіне, якую не назавеш прыбытковай. Зараз у Мінскім метро вісіць аб'ява пра кватэру ў Фаніпалі — горадзе-спадарожніку Мінска. Квадратны метр у Фаніпалі каштуе 14 мільёнаў беларускіх рублёў. Цікава, куды глядзіць Аляксандр Рыгоравіч, які абяцаў кошт квадратнага метра на ўзроўні сярэдняй зарплаты?

Зарабіць жа грошы самі мы не можам — не ў малой ступені з-за «шматвектарнасці» беларускай палітыкі. Зноўку яскравы прыклад: продажы грузавых аўтамабіляў МАЗ на расійскім рынку ў першай палове года скараціліся больш чым у два разы ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. За паўгады мы прадалі ў Расіі толькі 1 769 аўтамабіляў, што на 56% менш, чым за той жа перыяд мінулага года.

І гэта яшчэ адзін паказчык, чаму Расія не можа даць нам запатрабаваныя намі 3 мільярды долараў. У іх няма грошай, каб набываць беларускія тавары, не тое што даць «проста так». Эпоха «грошай у абмен на пацалункі», падаецца, канчаткова скончылася.

Не, канешне, калі яна паднапружыцца, то грошы знойдзе. Але дзеля гэтага трэба напружвацца. А напружвацца чыноўнікі як у Расіі, так і ў Беларусі, проста так не хочуць.

На фоне ўсіх гэтых рухаў народ, які, па выразе Стругацкіх, «шэры, але мудрагелісты», пятай кропкай адчувае набліжэнне чарговага крызісу. Мы ўжо зазначалі ў мінулым нумары, што насельніцтва ў чэрвені кінулася купляць валюту, насуперак усім вясновым тэндэнцыям па яе здачы. Зараз чарговая навіна з фінансавага рынку. У тым жа чэрвені беларусы прыкметна актывізавалі перавод рублёвых дэпазітаў у валютныя ўклады.

На 1 чэрвеня рублёвыя дэпазіты насельніцтва ў нацыянальнай валюце знізіліся на 68,6 мільярда рублёў. Тэрміновыя ўклады за чэрвень знізіліся на 750,3 мільярда рублёў. А валютныя ўклады выраслі на $198,4 мільёна і на 1 чэрвеня склалі ўвесь золатавалютны рэзерв Беларусі ў яго́ныя лепшыя часы — $8,133 мільярда.

Варта зазначыць, што зараз ЗВР сінявокай, разлічаныя па стандартах МВФ, на 1 ліпеня склалі $4 мільярды 620,7 мільёна. То бок, у насельніцтва грошай удвая больш, чым у дзяржавы. А напачатку жніўня дзяржаве патрэбна будзе яшчэ і аддаць $1 мільярд у якасці аплаты за еўрабонды.

Баюся, што калі ўсе беларусы пачнуць пераводзіць валюту ў наяўныя грошы — прыкладна палове іх не хопіць. Вось вам і Грэцыя з іхнім закрыццём банкаў.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Мікалай Дзядок

**Да палітвязня не пусцілі адваката.**

Адвакат спрабаваў сустрэцца са сваім кліентам у горацкай калоніі 14 ліпеня, але адміністрацыя ўстановы не пусціла яго на сустрэчу, паведаміў бацька палітвязня Аляксандр Дзядок.

«У адміністрацыі сказалі, што Мікалай нібыта не напісаў заяву на сустрэчу. Але гэта хлусня, мы дакладна ведаем, што Мікалай пісаў заяву. Пра гэта ён напісаў у лісце», — паведаміў ягоны бацька.

«Мікалай на 6 месяцаў кінуты ў памяшканне камернага тыпу, ён знаходзіцца ў маленькай камеры. Пра ўмовы ўтрымання нічога не вядома. І тое, што з ім не даюць сустрэцца адвакату, выглядае як помста за крытыку ўмоў утрымання», — сказаў бацька.

Да змяшчэння ў ПКТ на 6 месяцаў Мікалай Дзядок 42 дні правёў у карцары.

Нагадаем, Дзядок павінен быў выйсці на волю 3 сакавіка гэтага года. Аднак суд Ленінскага раёна Магілёва прызнаў Дзядка вінаватым у злосным парушэнні рэжыму і прысудзіў дадаткова да года і трох дзён пазбаўлення волі. Адбываць пакаранне палітвязня адправілі ў калонію №9 у Горках.

Дзядка перавялі ў горацкую калонію 12 мая, а ўжо на наступны дзень ён быў змешчаны на пяць сутак у ШІЗА. 19 мая яго зноў вярнулі ў штрафны ізалятар, дзе ён пакутаваў ад холаду і беспасяхова прасіў перавесці яго ў іншую камеру. У выніку 20 мая, каб прыцягнуць увагу дзяжурных па ШІЗА, малады чалавек парэзаў сабе рукі і жывот. Палітвязня змясцілі ў медчастку, але пасля аказання першай медыцынскай дапамогі вярнулі ў тое ж памяшканне ізалятара.



## Алесь Бяляцкі

**Вядомы беларускі праваабаронца, пісьменнік, былы палітвязень атрымаў прэмію імя Льва Сапегі ў Варшаве.**

Бяляцкі павінен быў забраць яе яшчэ ў 2012 годзе. Але не змог зрабіць гэтага, бо знаходзіўся за кратамі.

Падчас атрымання прэміі Алесь Бяляцкі заўважыў, што сёння ў Беларусі ёсць шмат працы для праваабаронцаў, у тым ліку звязанай з дапамогай палітычным рэпрэсаваным і іх сем'ям.

Прэмія імя Льва Сапегі знаходзіцца пад патранажам прэзідэнта Польшчы. Яе мэта — вылучыць грамадзян Беларусі, якія ўнеслі важны ўклад у фармаванне і развіццё грамадзянскай супольнасці ў краіне, а таксама прымаюць актыўны ўдзел у стварэнні незалежнай і дэмакратычнай Беларусі, звернутай у еўрапейскім кірунку.

## Вікторыя Азаранка

**Беларуская тэнісістка па выніках Уімблдонскага турніру паднялася на 5 радкоў і вярнулася ў дваццатку лепшых.**



На Уімблдоне Вікторыя Азаранка дабралася да чвэрцьфіналу, дзе ў трох сэтах саступіла будучай пераможцы турніру першай ракетцы планеты амерыканцы Серэне Уільямс. Але ў выніку Азаранка паднялася ў рэйтынгу ВТА з 24-га на 19-е месца.

У дваццатцы наймацнейшых Азаранка не было з верасня 2014 года, калі яна саступіла ў чвэрцьфінале US Open і выбыла з топ-20, апусціўшыся на 24-е месца. З тых часоў падзенне Азаранкі, якая была ў 2014 годзе другой ракеткай свету, працягвалася да лютага гэтага года і спынілася на адзнацы «49» рэйтынгу (гэта быў горшы паказчык з ліпеня 2007 года). Пасля чаго беларуска паступова стала адваёўваць пазіцыі.

У лік 40 наймацнейшых Азаранка вярнулася 2 сакавіка, у топ-30 — 11 мая, у топ-25 — 15 чэрвеня. Верагодна, пазіцыі беларускі сёння маглі быць і вышэй, але на шляху Азаранка на буйных турнірах некалькі разоў станавілася Серэна Уільямс.

Па выніках Уімблдона прыкметна палепшылі свае пазіцыі яшчэ дзве беларускія тэнісісткі, якія прабіліся ў асноўную сетку скрозь кваліфікацыйныя сіта. Вольга Гаварцова паднялася ў сусветным рэйтынгу з 122-га на 81-ы радок. 21-гадовая дэбютантка Уімблдона Аляксандра Сасновіч дабралася да другога круга Уімблдона і паднялася ў рэйтынгу са 137-га месца на 122-е месца Гаварцовай.

# «Дабраном» як сімптом, ці Шкодніцтва Мінгандлю

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Гандлёвая сетка «Дабраном» запазычыла пастаўшчыкам прадукцыі каля 30 мільярдаў рублёў. І Мінгандалю вырашыла прыпыніць працу 177 крамаў «Дабраном» на 90 дзён. Што стала шокам для ўсіх уладальнікаў крамаў і камерцыйных асацыяцыяў. А пакупнікі маглі ўвогуле пазбавіцца зручных кропак продажу.**




### Добранькі «Дабраном»

Канешне, сплочваць пазыкі трэба, з гэтым ніхто не спрачаецца. Але брутальныя дзеянні Мінгандлю «караць усіх без разбору» выклікаюць як мінімум неразуменне, а як максімум, наводзяць на думкі пра сабатаж на самым высокім узроўні. Бо ад пачатку трэба было б разабрацца, з чаго ўзнікла гэтая запазычанасць.

Калі разбірацца, то запазычанасць узнікла ад таго, што «Дабраном» быў занадта добры і сапраўды дбаў пра тую «сацыяльную дзяржаву», пра якую нам кажуць з тэлевізара. Напачатку гэтага года пра банкруцтва абвясціла сетка крамаў «Родная сторона». Каб не пазбаўляць народ магчымасці нешта набыць у звыклых для іх крамах, «Дабраном» узяў на сябе частку цяжару гэтага банкруцтва: пад ягоную апеку перайшлі некаторыя «роднастаронаўскія» аб'екты. У выніку за тры месяцы гандлёвая сетка «Дабраном» адкрыла 80 крамаў і прыняла на працу 3350 новых супрацоўнікаў.

Адпаведна, для перапрафілявання крамаў патрэбныя былі грошы, далучэнне сеткі крамаў аператара «Родная сторона» запатрабавала дадатковых фінансавых укладанняў. «Дабраном» крыху не разлічыў свае сілы і фінансавыя магчымасці, з таго і ўзнікла запазычанасць. Як кажуць, добрымі намерамі замошчаны шлях у пекла — і Мінгандаль забяспечыў крокі ў тым кірунку.

А што было б, калі б «Дабраном» не ўзяўся за гэтую няўдзячную справу і не спяшаўся б з рэканструкцыяй спадчыны «Роднай стороны»? Было б адно: пакупнікі проста б пазбавіліся шмат якіх крамаў «крокавай даступнасці», зачыненыя крамы б віселі мёртвым грузам на мясцовых бюджэтах, уводзячы іх не ў плюс ад сплаты падаткаў, а ў мінус. Бо камуналку нават за зачыненыя крамы, за іх утрыманне, і хаця б заробак ахоўнікам усё роўна трэба б было плаціць.

Так што добранькі «Дабраном» хацеў як лепей, а атрымалася — як заўсёды. І зусім не па правіне «Дабранома».

### Зарэзаць залатаяйкавую куру

Канешне, для Мінгандлю «сацыяльная дзяржава» і сацыяльны складнік у дзейнні гандлёвай сеткі — не аргумент. Галоўнае, каб грошы былі і з пазыкамі разлічыліся. Можа быць і так, але тады ў Мінгандлі павінны ўмець лічыць. Хаця, як паказвае выпадак з «Дабраномам», лічыць там не ўмеюць.

Як паведаміла выканаўчы дырэктар Асацыяцыі раздробных сетак Таццяна Закжэўская, «Дабраном» за першае паўгоддзе 2015 года сплаціў у рэспубліканскі, мясцовыя бюджэты і адлічэнні ў ФСАН больш 66 мільярдаў рублёў падаткаў і непадатковых плацяжоў. Адпаведна, за тры месяцы прыпынення дзейнасці сеткі крамаў гэтыя бюджэты недаатрымалі б 33 мільярды рублёў. Што супастаўляльна з запазычанасцю самога «Дабранома» перад пастаўшчыкамі.

Але гэтыя мільярдныя падаткі — толькі кропелька таго, што недаатрымае дзяржава ў выпадку спынення дзейнасці сеткі «Дабраном».

Як вядома, у нашай краіне адзін падатак плаціць кожны, незалежна ад таго, ёсць у яго статус «лайдака» ці ён афіцыйна працуе. Гэта — падатак на дададзеную вартасць (ПДВ), які складае зараз 20% ад кошту тавару, што прадаецца кожнаму ў краме. Колькі гэтага падатку збірае «Дабраном»?

Звестак пра «сярэдні чэк» у крамах сеткі ў нас няма. Але, калі меркаваць па сабе, то за адзін паход у краму я там пакідаю мінімум за 50 000 рублёў. Гэты мінімум і возьмем за аснову.

Згодна інфармацыі той жа Закжэўскай, штодзённа ў 177 крамах «Дабраном» затаварваецца 190 тысяч чалавек. Шляхам няхітрых падлікаў (190 тысяч памножыць на 50 тысяч рублёў) атрымліваем, што за дзень гандлёвая сетка атрымлівае як мінімум 9 мільярдаў 500 мільёнаў рублёў.

Памнажаем гэтую суму на 90 «непрацоўных» дзён. Атрымліваем фантастычную суму ў 855 мільярдаў беларускіх рублёў. Ад гэтых мільярдаў адлічваем падатак на дадатковую вартасць і атрымліваем амаль 142,5 мільярда (!) недаатрымае бюджэт з-за дзеянняў Мінгандлю за тры месяцы.



**Тое, што недаплаціць «Дабраном» з-за магчымага закрыцця сваіх крамаў, амаль у тры разы перавышае гадавыя дзяржаўныя выдаткі па артыкуле «маладзёжная палітыка»**

Ну і плюсуем сюды, для чысціні эксперыменту, тыя 33 мільярды наўпроставага падатку «Дабранома». Атрымліваем на выхадзе 175, 5 мільярда рублёў.

### Шкодніцтва і сабатаж

Што такое 175 мільярдаў рублёў для дзяржавы? Шмат? Няшмат? Лічыце самі.

Напрыклад, 200 мільярдаў рублёў у 2014 годзе дзяржава выдаткавала на ўсю краіну для ўзнаўлення пагалоўя свінняў, што пацярпела ў выніку афрыканскай чумы. То бок, за тры месяцы адзін «Дабраном» амаль забяспечвае ўсю свінагадоўлю краіны.

200 мільярдаў рублёў — гэта ўся сума, якая закладзеная ў бюджэт на год на «садзейнічанне занятасці насельніцтва». То бок, адзін «Дабраном» за тры месяцы амаль забяспечвае працу ўсіх службаў занятасці краіны.

Тое, што недаплаціць «Дабраном» за тры месяцы, амаль у тры разы перавышае гадавыя дзяржаўныя выдаткі па артыкуле «маладзёжная палітыка». У бюджэце–2015 на гэтыя мэты выдаткавана ўсяго 62 мільярды рублёў.

Ну і не кажучы ўжо пра тое, што выплаты «Дабранома» ў бюджэт за тры месяцы — гэта амаль пяцікратная (!) іх запазычанасць перад пастаўшчыкамі.

Параўноўваць можна яшчэ доўга. Але прымітыўныя дзеянні з калькулятарам паказваюць, што рашэнне Мінгандлю прыпыніць на тры месяцы працу «Дабранома» як мінімум неадэкватнае, а як максімум (ужо казалася) — шкодніцтва і сабатаж.

### Сімптом «Дабранома»

Прыклад «Дабранома» паказальны, але і сімптаматычны. Бо не толькі гэтая сетка трапляла пад раздачу Мінгандлю. Такія ж пагрозы гэтага ведамства аб прыпыненні працы крамаў ужо гучалі ў сувязі з тымі ж і іншымі парушэннямі ў дачыненні да сетак «Рублёўскі» і «Еўраторг» (крамы «Еўраопт»). У «неадпаведнасці асартыменту» абвінавачвалася сетка абутковых крамаў «Мегатоп», і гэтыя крамы таксама «прыпынялі дзейнасць». Траплялі пад закрыццё нават шапікі «Белсаюздруку».

Зараз «Дабраном» узяў крэдыт і разлічыўся з пастаўшчыкамі. У Мінгандлю ёсць усе падставы адмяніць сваё рашэнне пра закрыццё гэтай гандлёвай сеткі. Аднак, як кажуць, «асадак застаўся».

### Асадачак

Як заявіў дырэктар ЗАТ «Дабраном» Васіль Якубаў, праблемы з разлікамі мелі кароткачасовы характар, і ў падобных сітуацыях кампанія і раней прыцягвала кароткатэрміновыя банкаўскія крэдыты для сплаты запазычанасцяў.

Паводле яго слоў, "Дабраном» і без праверкі Мінгандлю абавязкова аплаціў бы ўсё кантракты на пастаўку тавараў. На момант вынясення рашэння Мінгандлю аб прыпыненні працы крам у «Дабранома» была дамоўленасць з банкамі аб выдзяленні крэдытных сродкаў, што дазволіла б не толькі пагасіць усю пратэрмінаваную запазычанасць, але і стварыць фінансавы рэзерв для развіцця кампаніі. «Ніколі за пяць гадоў працы сеткі не было запазычанасці ні перад бюджэтам, ні па заработнай плаце, ні перад банкамі. Запазычанасць перад пастаўшчыкамі, калі і была, то насіла кароткатэрміновы характар. Падобныя запазычанасці характэрныя для любога ўдзельніка рынку», — сказаў Васіль Якубаў.

Ён адзначыў, што застаецца толькі шкадаваць, што бягучыя працоўныя пытанні ператварыліся ў форс-мажорныя абставіны.

Але асадак атрымаў не толькі «Дабраном». Найперш, у асадак выпала інвестыцыйная прывабнасць Беларусі. Раздробны гандаль — амаль адзіная сфера, у якую ішлі замежныя інвестыцыі. Напрыклад, саўладальніца сеткі крамаў «Суседзі» — літоўка Алма Яўнцемене. Сетка крамаў «Mart Inn» належыць акцыянерам літоўскай жа «Maxima» Міндаўгасу і Гінтарасу Марцінкявічусам. Уладальнікам крамаў «Белмаркет» з'яўляецца інвестыцыйная кампанія «А1», якая ўваходзіць у структуру расійскай «Альфа-Груп». «Расійскімі» ж з'яўляюцца і крамы «Алмі». У гіпермаркеты «Гіпа» інвестуе ЗП «БелВіллісдэн», якое, у сваю чаргу, заснавана брытанскай кампаніяй Willisden Industries Limited.

І толькі «Еўраопт», насуперак чуткам пра «расійскі след», належыць беларусам Сяргею Літвіну і Уладзіміру Васільку, якія, што праўда, стала жывуць у Вільні.

Гісторыя «Дабраному» атрымала вялікі розгалас. Зразумела, што яе будуць выкарыстоўваць магчымыя замежныя інвестары пры ацэнцы рызыкаў увахождання з грашыма ў Беларусь. Магчымыя страты інвестыцыйнай прывабнасці краіны я нават не бяруся падлічваць.


Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі



Тэчкі са сховішча


Унікальныя дакументы

# Скарб у Вішнева:
## падчас рэстаўрацыі знойдзены ўнікальныя рэчы

Вольга ХВОІН

**«Гэта сенсацыя! Я марыў знайсці грааль у Сынкавічах, а знайшоў Рушчыца ў Вішнева!» — эмацыйна распавядае пра адкрыты падчас рэстаўрацыі касцёлу ў Вішнева тайнік з дакументамі мастак Алесь Пушкін.**

Золкая ветраная раніца беларускага лета. Каля касцёла Звеставання Дзевы Марыі ў Вішнева сустракаюцца рэдкія мінакі — пераважна мясцовыя. Мужчына і жанчына ідуць ад святой крыніцы з бутэлькамі вады. Мужчына спыняецца каля чарэшні (вакол касцёла пасаджана каля трохсот вішань і чарэшань), рве ягады. Потым на хвіліну адрываецца ад гэтага прыемнага занятку і пытае: «Чым гэты касцёл адметны?». «Ды хаця б сваім узростам». Суразмоўца губляе цікаўнасць, яшчэ колькі часу топчацца пад чарэшняю і шыбуе міма касцёла да машыны з мінскімі нумарамі.

### Вялікая ўдача

Схованку з дакументамі знайшлі 10 ліпеня падчас устаноўкі новага вітражу на фасадзе касцёла Звеставання Дзевы Марыі ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна. Касцёл быў пабудаваны ў 1637–1641 гадах родам магнатаў Храптовічаў. Храм уключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі.

Алесь Пушкін, які кіруе рэстаўрацыйнымі працамі ў Вішнева, займаецца аднаўленнем цэркваў і касцёлаў з 1992 года. Але тайнік пашчасціла знайсці ўпершыню. «Гэта вельмі рэдкі выпадак і вялікая ўдача», — падкрэслівае рэстаўратар.

У тайніку было тры дзясяткі тэчак з дакументамі — метрыкі, тэстаменты, дамовы, парафіяльныя кнігі, інвентарныя вопісы касцёла. Гэтыя дакументы ахопліваюць перыяд з 1827 па 1943 год. Таксама ў схованцы знайшлі 22 арганныя трубы і некалькі акварэльных замалёвак алтарнай часткі касцёла, партрэт Пілсудскага, два пакунікі кніг з парафіяльнай бібліятэкі.

Пушкін мяркуе, што гэта могуць быць акварэльныя малюнкі знакамітага мастака Фердынанда Рушчыца. Па версіі Пушкіна, супадаюць час і месца — Рушчыц паходзіць з гэтых мясцін. А ў 1903 годзе ён жыў у радавым маёнтку ў вёсцы Багданава. Да таго ж Рушчыц быў старшынёй камісіі па ахове помнікаў старажытнасцей, рабіў замалёўкі старадаўніх замкаў, касцёлаў. У нацыянальным мастацкім музеі ёсць толькі адно палатно Рушчыца «Каля касцёла. Нядзельны дзень».


Магчыма, гэта — фасад касцёла ў гатычным стылі. Аўтар А. Бразаўскі

«Іншага мастака, які б мог рабіць гэтыя замалёўкі, на той час тут проста не было», — пераканаsuccessfully Алесь Пушкін.

Па яго словах, інфармацыя пра знаходку будзе перададзеная ва Упраўленне па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі, у Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Пушкін спадзяецца, што Нацыянальны мастацкі музей зацікавіцца знаходкай і высветліць аўтара малюнкаў.

### Вялікае ў малым

У Вішнева служыць ксёндз-пробашч Юзаф Мельдзюк. Тайнік знайшлі акурат на пяцігоддзе яго святарскай дзейнасці.

Айцец Юзаф усцешаны гэтай знаходкай не менш за рэстаўратара.

«Гэта ж адкрываецца цікавая гісторыя таго, як жылі ў той час людзі, як вёўся ўлік, справаздачы. Цяпер многія цікавяцца продкамі, часта інфармацыю пра сваё паходжанне шукаюць тыя, хто нарадзіўся ў эмігранцкім асяродку. І вось мы маем кнігі актавых запісаў, дзе ўсё зафіксавана, — распавядае ксёндз-пробашч. — Актавыя запісы заканчваюцца 1943 годам. Магчыма, гэты тайнік быў зроблены ў сувязі з гібеллю ксяндза ў 1941 годзе, ці ў сувязі з карнымі акцыямі фашыстаў, расстрэламі габрэяў. Можа, такім чынам хацелі схаваць інфармацыю пра людзей. Парафія існуе з 1424 года, але дакументаў не маем. І вось знайшлі частку архіва. Магчыма, недзе ёсць іншыя тайнікі, і яны будуць знойдзеныя, калі іх змесціва за даўнасцю часу не спарахнела».

Касцёл у Вішнева адметны не толькі сваёй гісторыяй — мястэчка шмат разоў было ў цэнтры ваенных дзеянняў. Ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі служыў у гэтым касцёле ад 1954 года, то бок і ў часы СССР касцёл працаваў, а не ператвараўся ў бульбасховішча. Больш таго, усе службы вяліся па-беларуску. А Уладзіслаў Чарняўскі гадамі рабіў вялікую працу — перакладаў Біблію і Катэхізіс на беларускую мову. Два разы а. Чарняўскага запрашаў у Ватыкан Ян Павал II.

«Але я адмовіўся. Адказаў: хай папа ў Беларусь прыедзе. Хай пабачыць, якія мы занядбаныя, якія мы самотныя ў сваім змаганні…» — тлумачыў пасля а. Чарняўскі.

«У савецкі час трэба было выбудоўваць тактычную дыпламатыю. Відаць, да гэтага быў здольны ксёндз Чарняўскі. Ведаеце, у савецкі час барацьба з рэлігіяй вялася падступнымі захадамі. Напрыклад, мне расказваў адзін дзядзька, што хацеў новы трактар, каб працаваць было лепш, то яму параілі ўступіць у партыю. Дзядзька ўступіў, тады яму загадалі спілаваць крыж. Але той чалавек адмовіўся і ад гэтай прапановы, і ад новага трактара», — распавядае ксёндз-пробашч Юзаф Мельдзюк.

«Гэта багатая традыцыяй парафія. Касцёл патрабуе, канешне, рамонту, але сам факт, што гэтая спадчына засталася нам, сведчыць пра ахайнае стаўленне людзей. Меншаюць вёскі цяпер. І ў нашай парафіі няма выключэння. Толькі ж мы спадзяёмся, што з часам тут будуць запатрабаваныя людзі не толькі рабочых спецыяльнасцяў, але і інтэлектуальных, пачнецца адраджэнне месца. Канешне, мала моладзі прыходзіць у касцёл, але гэта агульная тэндэнцыя. Я працаваў у Мінску, і там тое ж назіралася.

Аднойчы прыехалі два турыстычныя аўтобусы, я папрасіў назваць мне 10 запаведзяў. Ніхто не змог гэтага зрабіць. І нават прапанова прыза ў сто доляраў не дапамагла. Я бачу галоўную прычыну ў тым, што бацькі не зацікаўленыя ў адукацыі, у тым ліку і рэлігійнай, сваіх дзяцей. Доўгі час нас вучылі, што рэлігія не патрэбная чалавеку, вера ёсць перашкодай. Але ў выніку маладыя людзі не адчуваюць адказнасці за дзеянні, за нашу рэчаіснасць», — дзеліцца думкамі а. Юзаф.

Падчас агляду касцёла Алесь Пушкін расказвае, колькі каштуе рэстаўрацыя элементаў убранства — лічбы для вясковага касцёла выглядаюць астранамічнымі.

«Вось страха цячэ, робім перакрыцці купалаў, бо бачыў, што крыжы стаяць нетрывала. У моцны вецер іх хістала нават. Дошкі на страсе трэба мяняць. Ёсць яшчэ праблема з пошукам спецыялістаў. Бо зрабіць дах у касцёле і накрыць хлеў — гэта ж розныя навыкі трэба мець. Грошай асаблівых няма, але трэба рабіць, і робім пакрысе», — падводзіць рысу ксёндз-пробашч Юзаф Мельдзюк.

Падчас нядзельнай імшы ў касцёле поўна людзей. Сярод прыхаджан пераважаюць жанчыны сталага веку. Але прысутнічала і каля дзесяці юных вернікаў. Айцец Юзаф моліцца за здароўе жыхароў і ўраджай, за мір на межах Беларусі і каб не пачалася трэцяя сусветная вайна.

А напрыканцы просіць перадаць «цёзку Юзіку з хутара, каб прыйшоў да касцёлу і зрабіў свой унёсак у працы па аднаўленні храма».


Тэстаменты, знойдзеныя ў сховішчы

# Каму служыць КДБ?

**Грамадскі антытэрарыстычны камітэт пачаў расследаванне заяў экс-кіраўніка КДБ Сухаранкі.**

«Грамадскі антытэрарыстычны камітэт» у асобе старшыняў аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Паўла Севярынца і Віталя Рымашэўскага, старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Станіслава Шушкевіча і старшыні прафсаюзаў РЭП Генадзя Фядыніча звярнуўся да генеральнага пракурора, міністра ўнутраных спраў, старшыняў ГПК і КДБ Беларусі.

У сваім звароце яны просяць даць падрабязную інфармацыю аб выніках расследавання і аб асобах, прыцягнутых да крымінальнай адказнасці за злачынствы тэрарыстычнага характару, аб якіх у 2006 годзе заяўляў старшыня КДБ Сцяпан Сухарэнка і ў 2011 годзе казалася ў фільме «Плошча. Жалезам па школу».

«Нам дакладна вядома, што ні адзін з прыведзеных эпізодаў у крымінальную справу па абвінавачванні Аляксандра Казуліна (2006 год), а таксама ў крымінальныя справы кандыдатаў у прэзідэнты і іншых асоб, якія прыцягваліся да крымінальнай адказнасці ў сувязі з падзеямі 19.12.2010 г., уключаны не быў і прадметам судовага разгляду не з'яўляўся. У сувязі з гэтым узнікае заканамернае пытанне: факты, прыведзеныя спадаром Сухарэнкам у 2006 г. і сюжэты фільма «Плошча. Жалезам па шклу» з'яўляліся прадуктамі дзяржаўнай перадвыбарнай прапаганды альбо ў рэчаіснасці мелі месца? Адсутнасць інфармацыі аб выніках расследавання гэтых фактаў выклікае сумневы ў іх сапраўднасці», — гаворыцца ў звароце.

«Гэтыя запыты — першы крок для расследавання пазначаных заяваў. Калі ўлады не прадстаўляць фактаў дакументальнага расследавання агучаных абвінавачванняў, то мы будзем даводзіць гэта да судовага разбіральніцтва і прыцягнення вінаватых да крымінальнай адказнасці паводле арт. 400 (ілжывы данос) і 424 (перавышэнне службовых паўнамоцтваў). Наша галоўная задача — перад кампаніяй 2015 года нагадаць беларускаму і міжнароднаму грамадству, ад каго сыходзілі пагрозы тэрактаў, абвінавачванні ў бок апазіцыі, заявы, якія не знайшлі пацверджання», — адзначыў Віталь Рымашэўскі.

**Галоўная задача — нагадаць беларускаму і міжнароднаму грамадству, ад каго сапраўды сыходзілі пагрозы**




Ён таксама паабяцаў сачыць за «ўсімі тэрарыстычнымі і антытэрарыстычнымі заявамі як збоку ўладаў, так і прарасійскіх групаў, кшталту «Антымайдана», казацкіх груповак і ім падобных».

**bchd.info**





# Прышчэпка ад дыктатуры

Аляксей ЧУБАТ

**Вусны гісторык бачыць і агучвае тое, што правячыя колы хацелі б замаўчаць. Ці можа вусны гісторык стаць суб'ектам палітычнага працэсу? Сваё бачанне таго, што такое вусная гісторыя і чым яна карысная для людзей, якія жывуць у дыктатарскіх грамадствах, прадставіў сусветна вядомы нямецкі гісторык Аляксандр фон Плата.**

У свеце нямала правячых рэжымаў з адзіным, афіцыйна вывераным пунктам погляду. Германія і Італія 30-х гадоў мінулага стагоддзя высвечвалі грамадскія працэсы толькі ў адным свеце. Таму пасля вайны афіцыйныя дакументы гэтых краін давалі адназначнае ўяўленне пра сістэму фашызму. Першыя навуковыя работы пра ўмовы ўтрымання ў канцэнтрацыйных лагерах былі напісаныя людзьмі, якія самі прайшлі «гітлераўскі ГУЛАГ».

Па словах Аляксандра фон Плата, у 1945 годзе ў Германіі запанавала тэорыя нулявой гадзіны. Згодна ёй, усё, што было з немцамі да гэтага года, падвяргалася абнуленню, і гісторыя краіны пісалася з чыстага ліста. Тэорыя ўплывала і на побытавае жыццё: пераважная частка насельніцтва ўвогуле адмаўлялася, нават у думках, звяртацца да нацысцкага перыяду. Людзі баяліся, што і за думкі іх асудзяць, і што з імі будуць абыходзіцца як са злачынцамі. Таму, напрыклад, пасля Нюрнбергскага працэсу ў Заходняй Германіі аж да 1958 года не было судоў над ваеннымі злачынцамі. Неабходнасць судоў і тое, што моладзь стала запытвацца ў бацькоў пра жыццё падчас панавання Гітлера, прывялі да пошуку новых адказаў на прыроду нацыянал-сацыялізму. Такія адказы магла даць толькі вусная гісторыя.

Гісторыкі пачалі апытваць грамадзян: як вы жылі да 1945 года? Менавіта не пра функцыянаванне дзяржаўнай машыны, а пра іх побыт, штодзённае жыццё. Вуснагістарычныя даследаванні далі дадатковае разуменне, чаму немцы паверылі Гітлеру. Асноўнае меркаванне — Гітлер выратаваў краіну ад сусветнага крызісу і пазбавіў немцаў ад ціску ганебнай для іх Версальскай дамовы — пацвердзілася. Але знайшлося яшчэ тры цікавыя аспекты. Па-першае, гендарны. Нацыянал-сацыялізм прываблівaў дзяўчат тым, што даваў ім магчымасць вырвацца з кола сям'і і пачаць грамадска актыўнае жыццё. Другім складнікам было тое, што немцы сталі больш роўныя — парушыліся сцены паміж сацыяльнымі класамі. І трэцім элементам у скрыню падтрымкі Гітлера, як паказалі апытанні людзей, стала зніжэнне рэлігійнага ўздзеяння, асабліва ў Рурскай вобласці. Вусная гісторыя здолела даць разуменне, што Гітлер не быў д'яблам-чараўнікоў, які завабіў масы. Вызначыліся канкрэтныя складнікі ягонай прыцягальнасці. Узнікла разуменне, як у XX стагоддзі і надалей адэкватна адказваць на пагрозы, што сыходзяць ад нацызму. І знайсці гэтыя адказы дапамагла менавіта вусная гісторыя, — лічыць гісторык фон Плата.

Таксама вуснагістарычны падыход дапамагае грамадству глядзець на гісторыю не як на кавалкі часу, абмежаваныя зацэментаванымі датамі, а як на жывы працэс. Прагучыць нечакана, але даследаванні паказалі, што ў 1945 годзе нават тыя людзі, якія змагаліся з Гітлерам у Германіі, апынуліся ў складанай сітуацыі. Яны змагаліся, але яны ж адначасова і жылі, планавалі ажаніцца ці нарадзіць дзяцей, і 1945 год прымусіў іх перакройваць жыццё наноў. Таму вусная гісторыя прымусіла класічную гістарыяграфію змяніць устойлівыя гадавыя рамкі: 1933–1945 або 1939–1945 гады. Напрыклад, вынікі аднаго з даследаванняў вусных гісторыкаў у Германіі называліся «Жыццёвая культура немцаў у Баварскай вобласці 1930–1960 гг.». Да гэтага часу такія рамкі не прымяняліся, і яны дазволілі глядзець на гісторыю народа як на складанейшы працэс, а не выверaны падручнік.



Ініцыятывы па даследаванні вуснай гісторыі ў Германіі ў 1960–1970 гадах паўставалі ў выглядзе гістарычных майстэрняў. Звычайна яны мелі назву «Супраціў і пераслед у часы нацыянал-сацыялізму ў пэўным годзе ў канкрэтнай мясцовасці». Яны ставілі ў цэнтр увагі паводзіны людзей у часы панавання Гітлера і пасля Другой сусветнай вайны. Даследаванні зрабілі вялікі ўнёсак у разуменне нямецкай ментальнасці.

У Беларусі на дадзены момант працуюць адзінкавыя арганізацыі па працы з народнай памяццю. Гэта, напрыклад, Гістарычная майстэрня, якая даследуе акупацыю Беларусі, паўсядзённасць вайны, жыццё ў гета, збірае ўспаміны «Праведнікаў свету». Таксама працуе Беларускі архіў вуснай гісторыі, які таксама засяроджаны на зборы ведаў пра XX стагоддзе.

**Вусная гісторыя здолела даць разуменне, што Гітлер не быў д'яблам-чараўнікоў, які завабіў масы**

Дзейнасць такіх установаў — гэта сапраўдная процівага адзінаму гістарычнаму погляду на жыццё, якім асабліва грашаць несвабодныя краіны. Таму не дзіўна, што вусны гісторык можа не па сваёй волі стаць суб'ектам палітычнага працэсу. Дзяржава бачыць у ім канкурэнта, які чуе і агучвае тое, што правячым элітам хацелася б замоўчваць. Але нават у такой няроўнай канкурэнтнай барацьбе вусны гісторык пачуваецца моцным, бо за ім — праўда памяці народа.

# Каму замінаў Камітэт супраць катаванняў

Аксана КОЛБ

**У Расіі працягваецца барацьба з праваабаронцамі. Чарговай ахвярай стала Міжрэгіянальная грамадская арганізацыя «Камітэт супраць катаванняў», якую занеслі ў рэестр арганізацый, «якія выконваюць функцыі замежнага агента». Чым займаўся «Камітэт супраць катаванняў» і што стаіць за яго праследам? На пытанні НЧ адказвае інспектар па грамадскіх расследаваннях, юрыст Камітэта Альбіна Мударысава.**



Альбіна Мударысава

***— Старшыня «Камітэта супраць катаванняў» Ігар Каляпін заявіў аб хуткай ліквідацыі арганізацыі. Ці значыць гэта, што цяпер такі важны кірунак праваабарончай дзейнасці будзе згорнуты?***

— Працаваць з ганебным кляймом «замежны агент» для нас непрымальна, таму на маючай адбыцца канферэнцыі нашай арганізацыі будзе пастаўлена пытанне аб ліквідацыі. Але мы ні ў якім разе не збіраемся згортваць дзейнасць. Мы працягнем займацца абаронай правоў чалавека, але ўжо ў новым фармаце. Ліквідацыя — гэта вымушаная мера. Мы нічые не агенты. Наадварот, працуем па заявах расійскіх грамадзян, якія пацярпелі ад незаконнага гвалту з боку прадстаўнікоў улады. Аказваем ім юрыдычную і медыцынскую дапамогу.

***— Наколькі запатрабаваная дзейнасць камітэта? Ці шмат было зваротаў?***

— На жаль, зваротаў вельмі шмат, людзі скардзяцца на незаконныя дзеянні супрацоўнікаў паліцыі, а таксама шматлікія скаргі на парушэнні правоў чалавека паступаюць з месцаў зняволення. Так, за 2014 год у Арэнбургскае аддзяленне Камітэта супраць катаванняў са скаргамі на парушэнні правоў чалавека звярнуўся 31 чалавек, за перыяд са студзеня па чэрвень 2015 года — 16 чалавек. Апошні час паступаюць скаргі на хуткую медыцынскую дапамогу. Распавяду гісторыю Ларысы Нікіціначй. Яе брата, Аляксандра Лапаціна, шпіталізавала «хуткая», а праз паўгадзіны труп Аляксандра быў знойдзены каля смеццевых бакаў непадалёк ад бальніцы. На жаль, гэта не адзінкавы выпадак, калі лекары «хуткай» аказваюцца аб'ектам скаргаў.

Кожная заява, якая паступае ў Камітэт, — гэта заўсёды цяжкая, поўная трагізму гісторыя чалавека, які сутыкнуўся з несправядлівасцю і беззаконнем. Камітэт супраць катаванняў дапамог аднавіць правы шматлікім нашым заяўнікам.

***— Якія найбольш гучныя справы ўдалося выйграць?***

— У Ніжагародскай вобласці, дзе знаходзіцца галаўны офіс Камітэта, найбольш гучнымі справамі з'яўляюцца справы Аляксея Міхеева, Вольгі Маслаўвай, Сяргея Ляпіна, Аляксандра Навасёлава. Раскажу пра кожнага з іх сцісла.

Аляксей Міхееў быў западозраны ў згвалтаванні і забойстве дзяўчыны. У ходзе допытаў да Міхеева былі ўжытыя катаванні, у выніку чаго ён быў вымушаны напісаць «яўку з пакаяннем», а затым выкінуўся з акна, атрымаўшы пры падзенні шэраг цяжкіх траўмаў. На наступны дзень пасля гэтага дзяўчына, у забойстве якой прызнаўся Міхееў, вярнулася дадому. Рашэннем Еўрапейскага суда па правах чалавека Міхееву прысуджана кампенсацыя ў памеры 250 000 еўра. Двое міліцыянтаў атрымалі па 4 гады пазбаўлення волі.

Вольга Маслава прыйшла ў пракуратуру як сведка па крымінальнай справе, але падвергнулася неаднаразовым катаванням і згвалтаванням супрацоўнікамі пракуратуры і міліцыі. Рашэннем Еўрапейскага суда па правах чалавека Маславай прысуджана кампенсацыя ў памеры 70 000 еўра.

Сяргей Ляпін падвергнуўся катаванням электрычным токам у міліцыі для выбівання прызнальных паказанняў у здзяйсненні злачынства. Страсбургскі суд прызнаў факт катаванняў Сяргея, а таксама ўсталяваў, што следчыя органы не правялі эфектыўнага расследавання па гэтым факце. Яму прысуджана кампенсацыя ў памеры 45 000 еўра.

Аляксандра Навасёлава выкралі супрацоўнікі міліцыі, адвезлі ў лес і катаваннямі прымусілі прызнацца ў замаху на забойства. Аляксандр, спалохаўшыся за сваё жыццё, быў вымушаны напісаць яўку з павіннай. Пазней усе абвінавачванні з Аляксандра былі знятыя, а ўсё тое, што адбылося з ім, было растлумачана як «аператыўны эксперымент». ЕСПЧ у сваёй пастанове прызнаў, што Навасёлава каталі прадстаўнікі дзяржавы, абавязаўшы Расію выплаціць Навасёлаву 27 500 еўра.

Кампенсацыі людзі атрымалі дзякуючы дзейнасці нашага Камітэта.

Не магу не расказаць пра нашы арэнбургскія справы. Справа Сяргея Іванова адрозніваецца ад большасці «катавальных» спраў, тым што аднаўленне яго правоў мы дамагліся на нацыянальным узроўні. Сяргей быў спынены супрацоўнікамі паліцыі для праверкі дакументаў, якіх у яго пры сабе не аказалася. Сяргей прапанаваў праваахоўнікам праехаць да яго дадому за пашпартам. Супрацоўнікі паліцыі пагадзіліся, і Сяргей сеў у аўтамабіль, але яго тут жа пачаў збіваць адзін з паліцэйскіх. Пасля гэтага Сяргей быў прааперыраваны, і яму была выдаленая селязёнка. Раённым судом г. Арэнбурга Іванову была прысуджана кампенсацыя ў памеры 300 000 000 рублёў, а вінаваты ў катаваннях быў прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Электрычным токам каталі і Аляксандра Ждана, які быў сведкам па крымінальнай справе. У выніку ў яго здарыўся інсульт, і самі паліцэйскія былі вымушаныя адвезці яго ў шпіталь. Больш за 5 гадоў следчыя органы адмаўлялі Аляксандру ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Аднак пасля падачы скаргі ў ЕСПЧ, справа была ўзбуджаная. На дадзены момант крымінальная справа знаходзіцца ў судзе на стадыі судовага следства. Перад судом паўсталі 2 абвінавачаных.

А вось Аляксей Сухаў вяртаўся дадому ў пасёлак Прыгарадны пасля навучання на вадзіцельскіх курсах. Недалёка ад дома яго спынілі двое супрацоўнікаў паліцыі, якія вырашылі абшукаць Аляксея. Падчасператрусу Сухаў убачыў, што яму спрабуюць засунуць у кішэні каноплі. Аляксей пачаў гучна крычаць і абурацца незаконнымі дзеяннямі праваахоўнікаў, спрабуючы прыцягнуць увагу, аднак крыкі не дапамаглі, і паліцэйскія жорстка збілі мужчыну, пасля чаго адвезлі на мясцовыя могілкі, паабяцаўшы, што «там яго і прыкапаць». Крымінальная справа па заяве Аляксея была ўзбуджаная толькі па заканчэнні 3-х гадоў. На дадзены момант яна знаходзіцца ў судзе на стадыі судовага следства. Перад судом паўсталі 2 абвінавачаных.

***— У Расіі ўжо больш за 50 некамерцыйных арганізацый прызнаныя «замежнымі агентамі». Сярод іх — не толькі Камітэт супраць катаванняў, але і такія вядомыя арганізацыі, як «Грамадскі вердыкт», «Мемарыял», «Юрыкс» (Юрысты за канстытуцыйныя правы і свабоды), «Агора» і «Экаабарона!-Жэнсавет», «Салдацкія маці Санкт-Пецярбурга». Ці значыць гэта, што ўлада бачыць асноўную пагрозу свайго існавання ў выкананні правоў чалавека?***

— Вельмі спадзяюся, што гэта не так! Думаю, што праваабарончыя арганізацыі робяць галоснымі «хворыя» тэмы для дзяржавы, прыцягваючы ўвагу СМІ, паколькі без грамадскага рэзанансу дамагчыся выніку бывае вельмі складана. У большасці выпадкаў толькі пад пільнай увагай грамадскасці атрымоўваецца дамагчыся аднаўлення правоў чалавека. Прадстаўнікам улады нашмат прасцей крыціць па «зомбі-скрынях» заказныя навіны аб праблемах напрыклад, на Украіне, чым казаць пра ўласныя, і ўжо тым больш вырашаць іх. А калі прызнаць арганізацыю, якая прыцягвае ўвагу грамадства да такой праблемы як, напрыклад, катаванні, ды яшчэ і змагаецца з гэтыя жахлівай з'явай, замежным агентам, то і давер да гэтай арганізацыі будзе мінімальным. Думаю, для большасці расіянаў тэрмін «замежны агент» успрымаецца адназначна негатыўна — гэта вораг, дыверсант і інш. Адпаведна, закон аб замежных агентах і стаў масавай зброяй супраць праваабарончых арганізацый, якія прыцягваюць увагу грамадскасці да існуючых праблем.



Пікет у Міжнародны дзень супраць катаванняў у Арэнбургу

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Пастаўкі газу з Літвы ва Украіну заблакаваныя па ініцыятыве беларускага боку. Прадстаўнік фонду «Свабода і дэмакратыя» кажа, што такое рашэнне Аляксандру Лукашэнку навязаў Крэмль. «Лукашэнка на ўкраінскім крызісе хоча выгандлеваць для сябе як мага больш. У нас была інфармацыя пра тое, што беларускія грузавікі актыўна вывозяць з Данбаса абсталяванне, вугаль, рабуюць Данбас гэтак жа, як робяць гэта расіяне. Цяпер аказалася, што Лукашэнка таксама вырашыў зарабіць на энергетычнай блакадзе Украіны і не даў згоды на транзіт літоўскага газу з Літвы ва Украіну», — заявіў ён.

**«Биржевой лидер» (Украіна)**

Існуе таксама небяспека адраджэння ў Беларусі празаходняй апазіцыі, якая своечасова не была нейтралізаваная Лукашэнкам. Улічваючы падзеі на Украіне і новую халодную вайну паміж Захадам і Рускім светам, неабходна трымаць руку на пульсе і быць гатовымі разам пагасіць ачаг майдану, калі ён зноў з'явіцца ў Беларусі.

**«Русь православная» (Расія)**

Ад фактычнай высылкі з Беларусі ў 2012 годзе шведскага пасла Стэфана Эрыксана да прызначэння цяперашняй вясной Марціна Обэргэ прайшло амаль тры гады. Сапраўды, змяніўся курс. І змяніўся гэты курс ужо да таго, як Обэргэ стаў новым паслом. Вы, напэўна, памятаеце скандал, калі Шведскае рэкламнае агенцтва раскідала над Беларуссю плюшавых мядзведзікаў з надпісамі-заклікамі да свабоды і дэмакратыі. Тады шведскі МЗС, Карл Більт, наш міністр сказаў вельмі ясна, што мы не будзем маўчаць. А на самай справе, сапраўды змоўклі. І апошнія два гады амаль нічога не было чуваць. Хацелі вярнуць магчымасць адкрыць зноў сваю амбасаду, і за гэта трэба было плаціць нейкую цану. Відавочна, гэта і была цана.

**«Sverigesradio» (Швецыя)**

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што крэдытаванне Беларусі з боку РФ таксама суправаджаецца выпучэннем нейкіх патрабаванняў па лібералізацыі эканомікі ці пераразмеркавання актываў. Але ўсё ж у большасці выпадкаў фінансавыя ўліванні з Расіі можна ўмоўна назваць «сяброўскімі крэдытамі», паколькі жорсткасць патрабаванняў Масквы саступае дыктату МВФ. Але загнанаму Балівару беларускай эканомікі ад гэтага, здаецца, не нашмат лягчэй. Нагадаем, што ў кастрычніку 2015 года ў рэспубліцы павінны прайсці прэзідэнцкія выбары. Цяжкія праблемы ў эканоміцы і сацыяльнай сферы могуць стаць падарункам для лагера празаходніх прыхільнікаў «Еўрамайдана» ў Беларусі.

**«Руская планета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Артыстаў караюць за дэкальтэ

Папулярную ва Узбекістане спявачку Лолу (Юлдашаву) 14 ліпеня пазбавілі ліцэнзіі на выканальніцкую дзейнасць. Як патлумачыў начальнік аддзела ліцэнзавання эстраднага аб'яднання «Узбекнаво», прычынай стала не адпаведнае ўзбекскаму менталітэту адзенне спявачкі. Асаблівае абурэнне выклікала чырвоная сукенка з вялікім дэкальтэ, у якой Лола з'явілася на сцэне ў канцы лютага. Адзін з гледачоў назваў сукенку «празмерна адкрытым уборам» і звярнуўся ў «Узбекнаво» з просьбай адрэагаваць на гэтую сітуацыю. Каб гардэроб іншых поп-музыкантаў таксама адпавядаў нацыянальнаму менталітэту, дырэкцыяй «Узбекнаво» выдадзена дырэктыва, згодна з якой сцэнічная адзенне спявачак не павінна агаляць іх плечы ці ногі, а рухі на сцэне павінны быць пазбаўленыя якога-небудзь сексуальнага падтэксту. «Узбекістан — гэта не востраў Рабінзона Круза, — аргументавала неабходнасць дырэктывы адна з чыноўніц. Але, на думку Юлдашавай, сексапільная чырвоная сукенка тут не пры чым. Па словах спявачкі, яе пакаралі за тое, што яна даўно не з'яўляецца на абавязковыя для ўзбекскіх эстраднікаў афіцыйныя акцыі, у рамках якіх артысты павінны агітаваць за патрыятызм і любоў да прэзідэнта.

**Паводле казахскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Нашто святкаваць штурм Бастыліі?



Напярэдадні 14 ліпеня, калі ў Францыі адзначаюць дзень узяцця Бастыліі, «The Wall Street Journal Europe», адно з вядучых бізнес-выданняў у свеце, заклікала французаў адмовіцца ад гэтай традыцыі. Пытанне нават не ў дэталях штурму турмы, якія выклікаюць шок у даследчыкаў. Па сутнасці Бастылію штурмавалі натоўп, які перад гэтым пад шафэ разрабаваў вайсковыя склады ў адным з парыжскіх кварталаў. На думку выдання, Французская рэвалюцыя і часы напалеонаўскай імперыі — увогуле не самыя лепшы этап у гісторыі краіны, а хутчэй дэбют імклівай дэвальвацыі Францыі як галоўнага глабальнага гульца. Не кажучы пра тое, што паходы Напалеона забралі жыцці двух мільёнаў галоўным чынам маладых французаў, што на стагоддзе падарвала дэмаграфію Францыі. Як следства, яна пачала прайграваць па росту насельніцтва Германіі, што спрыяла германскай экспансіі ў Еўропе. З-за рэвалюцыі 1789-га Францыя згубіла эканамічны патэнцыял, які мог быць вельмі карысны ў час наступаючай індустрыяльнай рэвалюцыі. У той час як у 1801–1810 гадах брытанская вытворчасць вырасла на 23 працэнты, французская эканоміка толькі ў 1809-м выйшла на дарэвалюцыйны ўзровень. Нарэшце, галоўны папрок да рэвалюцыянераў у тым, што яны прыдумалі жорсткую адміністратыўную вертыкаль як метад кіравання, што, на думку газеты, зараз памылкова дубліруе Еўрасаюз са сваімі дырэктывамі. «The Wall Street Journal Europe» называе свята 14 ліпеня вялікай ironіяй гісторыі. Аднак, падаецца, вялікая іронія ў іншым. Увогуле, артыкул быў напісаны яшчэ ў 2002 годзе, аднак тады яго палічылі неадэкватным і не апублікавалі. У нашы крызісныя часы, калі пад сумнеў ставяць усе старыя догмы, думкі аўтара артыкулу аказаліся абсалютна ўпісаныя ў актуальныя трэнды настрояў грамадства.

**Паводле французскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Палякаў не прызналі меншасцю

Федэральны ўрад ФРГ у чарговы раз адмовіў палякам, якія жывуць у Германіі, у статусе нацыянальнай меншасці. Не дапамагло нават лобі з боку польскага МЗС, дырэктар якога асабіста прасіў нямецкіх дыпламатаў. Сваё рашэнне Берлін звязвае з дзіркамі ў бюджэце. Калі лічыць палякаў нацменамі, ім давядзецца забяспечыць гарантаваныя законам пра правы нацменашасцяў асобныя школьныя прадметы, што патрабуе сродкаў. Праўда, на гэтым гісторыя наўрад ці скончыцца. Кшыштаф Шчэрскі, галоўны дарадца па замежных справах новага прэзідэнта Анджэя Дуды, у адным з інтэрв'ю ўключыў пытанне правоў палякаў у ФРГ у чатыры галоўныя праблемы польскай знешняй палітыкі. Гжэгаж Схетына, цяперашні кіраўнік польскай дыпламатыі, прадстаўнік ліберальнай «Грамадзянскай платформы», каментуючы заявы Шчэрскага, прагназуе нялёгкія часы для нямецкай меншасці ў Польшчы пры кансерватарах, якія, хутчэй за ўсё, зменяць лібералаў пры ўладзе ўвосень. Дарэчы, Шчэрскі таксама лічыць, што перамовы па Украіне ў рамках Нармандскага фармату (сустрэчы лідараў МЗС Францыі ФРГ, Расіі Украіны) не маюць эфекту, паколькі ў іх не прадстаўлена Варшава.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Схізма працягваецца

*Алег НОВІКАЎ*



**Ва Украіне праваліўся чарговы праект стварэння адзінай паместнай праваслаўнай царквы. Аптымісты лічаць, што апошняя кропка яшчэ не пастаўленая.**

Праект аб'яднання ўкраінскага праваслаўя быў анансаваны ў першыя дні пасля перамогі Майдану на яго сцэне, што падаецца цалкам лагічным. Нагадаем, што ва Украіне суседнічаюць тры праваслаўныя царквы. Найбольш буйная Украінская праваслаўная царква (Маскоўскі патрыярхат) — УПЦ (МП), якая знаходзіцца ў ведамстве Маскоўскай патрыярхіі. Адкол ад яе ў выглядзе Украінскай праваслаўнай царквы (Кіеўскі патрыярхат) — УПЦ (КП). Існуе яшчэ невялікая Украінская аўтакефальная праваслаўная царква — УАПЦ.

Апошнія дзве царквы некананічныя, што выклікае цяжкасці ў іх камунікацыі з праваслаўным светам і ўплывае на імідж. Напрыклад, пры ўсіх панегірыках на адрас УПЦ (КП), якая актыўна падтрымлівала Майдан, Пётр Парашэнка фармальна застаецца вернікам УПЦ (МП). Усяго, паводле дадзеных Міністэрства культуры Украіны, у краіне на 1 студзеня 2015 года налічвалася ва УПЦ (МП) — 12 241 абшчына УПЦ (КП) — 4 738, УАПЦ — 1 225 абшчын, стараабрадцаў — 68, РПЦ замежнай — 28.

Канкурэнцыя цэркваў заўсёды ўспрымаўся ў эліце як бар'ер на шляхуператварэння ўкраінцаў у адзіную нацыю. Адсюль спробы ўлады навязаць царкоўным арганізацыям дыялог з мэтай аб'яднання. Шукалі рашэнне гэтай праблемы, напрыклад, прэзідэнты Кучма і Юшчанка.

Новая постмайданаўская спроба аб'яднання праваслаўных пачала набываць нейкую канкрэтыку ў мінулым лістападзе, калі ў Роўна былі агучаны адпаведны мемарандум. Вось яго першыя і галоўныя пункты: «1. Усе праваслаўныя цэрквы Ровенскай вобласці прызнаюць і моляцца за цэласную і адзіную дзяржаву — Украіну. 2. Усе праваслаўныя цэрквы Ровенскай вобласці выступаюць за стварэнне адзінай Украінскай паместнай праваслаўнай царквы. 3. Усе праваслаўныя цэрквы Ровенскай вобласці асуджаюць дзеянні Расіі як агрэсара і іншых дзяржаў па захопу тэрыторыі Украіны».

Тэкст быў падпісаны, дарэчы, таксама прадстаўнікамі УПЦ (МП). Магчыма, такім чынам яны хацелі рэабілітаваць сваю царкву, якую ў лакальнай прэсе часта вінавацяць у падтрымцы сепаратызму на ўсходзе краіны. Гэта выклікала нават рашэнні вернікаў пра пераход іх абшчыны пад патранат Кіеўскага патрыярхату. Увогуле, тэма ўплыву вайны на ўкраінскую царкву патрабуе асобнага даследавання.

Наступным крокам у накірунку інтэграцыі цэркваў стала сенсацыйная заява ад 12 сакавіка гэтага года. Лідар Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы мітрапаліт Макарый прамым тэкстам паведаміў, што УАПЦ гатовая аб'яднацца з Украінскай праваслаўнай царквой Кіеўскага патрыярхату. «Цяпер ужо час не пачынаць, а рэальна дзейнічаць. Не трэба марнаваць ні аднаго дня. Трэба сустракацца, размаўляць і рабіць рэальныя крокі. Я гатовы да таго (аб'яднання цэркваў). Таму што разумею, што гэта трэба Украіне», — сказаў мітрапаліт Макарый. Лідар УПЦ (КП) патрыярх Філарэт таксама выказаў гатоўнасць да аб'яднання. «Калі яны сур'ёзна хочуць аб'ядноўвацца — давайце аб'ядноўвацца, пачынаць дыялог, прадметна гаварыць аб аб'яднанні».

Адначасова Філарэт выказаў упэўненасць, што праваслаўныя з УПЦ (МП) не застануцца па-за рамкамі інтэграцыі.

Агульную ініцыятыву УПЦ (КП) і УАПЦ патрыятычная грамадскасць успрыняла на ўра. Тым больш, што канстанцінопальскі сусветны патрыярх Варфаламей у размове з украінскімі іерархамі таксама выказаў упэўненасць у аб'яднанні ўкраінскай царквы ў адзіную паместную і, па чутках, нават заявіў, што гатовы прадставіць ёй статус аўтакефаліі. Дарэчы, у шэрагу артыкулаў ва ўкраінскай прэсе адзначалася, што з'яўленне тут кананічнай паместнай царквы можа дасць імпульс росту аўтаномных настрояў сярод прадстаўнікоў беларускага праваслаўя.

Затое ў колах, блізкіх да УПЦ (КП), на паведамленні пра аб'яднанне адрэагавалі вельмі адмоўна, пабачыўшы тут руку Дзядзі Сэму. «За аб'яднаўчым працэсам на Украіне стаіць не Хрыстос, а Дзярждэп. І яны перажываюць не пра ўсенароднае дабро, а пра свае інтарэсы. Гэтая сітуацыя не новая для Украіны. І раней, у XVI–XVII стагоддзях, Еўропа спрабавала ціснуць на Расію, разыгрываючы царкоўную карту ў нашай краіне», — піша адзін са славянафільскіх журналістаў. Дарэчы, у УПЦ (МП) кажуць, што ў прынцыпе не супраць адзінства ўкраінскага праваслаўя, аднак гэтаму працэсу, на іх думку, замінаюць палітычныя сілы, якія амаль 20 гадоў выкарыстоўваюць пытанне ў сваіх мэтах. Маўляў, калі пасадзіць за адзін стол праваслаўных, яны самі знойдуць кампраміс.

Аднак у выніку ўсе эмоцыі як аматараў аб'яднання, так і праціўнікаў аказаліся марнымі. 10 ліпеня стала вядома, што прапановы Украінскай праваслаўнай царквы (Кіеўскага патрыярхату) па аб'яднанні ў Адзіную праваслаўную царкву Украінская аўтакефальная праваслаўная царква вырашыла адхіліць. Так пастанавіў архірэйскі Сабор УАПЦ. Пра гэта на сваёй старонцы ў Facebook напісаў прэс-сакратар УПЦ (КП), дадаўшы: «Маскоўская патрыярхія можа апладзіраваць кіраўнікам УАПЦ стоячы: адмовіліся ад усіх прапаноў па аб'яднанні. Гэта дрэнная навіна». Думка пра тое, што за рашэннем архірэяў УАПЦ стаяла Масква, таксама папулярная на інтэрнэт-форумах.

14 ліпеня сваю версію правалу кансультацый прапанавала УАПЦ, якая абвінаваціла ў зрыве перамоўнага працэсу Кіеўскі патрыярхат. Як сцвярджаюць у УАПЦ, прычынай канфлікту стала праблема захавання ў назве сумеснай царквы слова «аўтакефальная». УПЦ (КП) не пагадзілася з дадзенай прапановай, што, завяло ў тупік дыялог. Тут важна адзначыць, што аўтакефальная царква, у адрозненні ад УПЦ (КП), сапраўды мае гераічныя старонкі гісторыі, паколькі была ахвярай сталінскага тэрору. Ёсць і іншыя думкі. Напрыклад, журналісты каналу «Громадське» распавялі пра асабістыя разборкі паміж лідарамі УАПЦ і УПЦ (КП), якія цягнуцца з пачатку 1990-х гадоў, калі абедзве царквы актыўна дзялілі маёмасць.

Нягледзячы на правал спробы аб'яднання, украінская патрыятычная грамадскасць захоўвае аптымізм. Як піша партал «Рэлігійная інфармацыйная служба: «З пазітыўнага — зацвярджэнне, што пасля праведзеных збораў УСЕ святары УАПЦ выказаліся за аб'яднанне з УПЦ (КП). Гэта значыць, што нават у выпадку з пераносам аб'яднальнага Сабору на больш позні тэрмін унутры УАПЦ існуе адкладзены попыт на аб'яднанне, які рана ці позна трэба будзе задавальняць. Будзем спадзявацца, што там няма іншых прычын. І трэціх бакоў, зацікаўленых у тым, каб кантраляваны царкоўны хаос ва Украіне захоўваўся як мага даўжэй».




# Францыя ратуе лялек

Алег НОВІКАЎ

**З-за зацяжнога крызісу ў Францыі пад пагрозай закрыцця апынулася «Les Guignols de l'Info» — самае славутае ў свеце палітычна-сатырычнае шоу марыянетак.**

Каб хутка ўвесці чытача ў курс справы, дастаткова сказаць, што «Les Guignols de l'info» — гэта аналаг праграмы «Лялькі» Віктара Шэндэровіча, якая грымела на НТБ на мяжы стагоддзяў. Тады на прасторах былога Саюза нават гуляў анекдот: «Дрэнна, калі прэзідэнт Ельцын у праграме «Лялькі» выглядае лепш, чым у праграме «Весці».

Хаця больш правільна называць «Les Guignols de l'info» не аналагам «Лялек», а іх правобразам. У 1994 годзе прадзюсер расійскіх «Лялек» купіў ва ўладальнікаў каналу «Canal+», якім належыць аўтарскае права на «Les Guignols de l'info», права на вытворчасць у Расіі падобнага прадукту. Першыя лялькі для перадачы Шэндэровіча таксама рабіў майстар-лялечнік з Францыі (дарэчы, пасля дастаўкі ў Маскву іх хутка скралі).

На гэтым, аднак, асацыяцыі паміж французскімі і расійскімі марыянеткамі заканчваюцца. Праекты з падобнымі на палітыкаў лялькамі ў Расіі і Францыі чакаў абсалютна розны лёс. Пасля ўступлення Пуціна на пасаду прэзідэнта для НТВ, як канала апазіцыйнага алігарха Гусінскага, прыйшлі цяжкія часы, прычым менавіта з-за марыянетак. Прынамсі Віктар Шэндэровіч лічыць, што злапамятны Пуцін не прабачыў НТВ выпуск «Лялек», у якім прыход Пуціна да ўлады абыгрываўся на сюжэце казкі Гофмана «Курдупель Цахес»: Пуцін быў выяўлены ў выглядзе карліка, як пры дапамозе тэлевізійнай феі Беразоўскага пачынае ўспрымацца ў грамадстве як герой-прыгажун. Спачатку пасля ціску на кіраўніцтва каналу праект пакінуў яго сцэнарыст Шэндэровіч. А пасля «Лялькі» самі па сабе выдыхнуліся, вымушаныя смяяцца ў рамках дазволенага Крамлём.

У Францыі, дзе сатыру традыцыйна разглядаюць важнай часткай дэмакратычнага працэсу, такі сцэнар цяжка ўявіць. Праграма, з якой глядач пазнаёміўся ўвосень 1988-га, не толькі працягвае выходзіць штодня, аднак і стала сапраўдным інстытутам народнай культуры. Шматлікія выразы і фразы, якія гучалі на шоў, можна пачуць у жыцці. Звычайна падобныя фразы агучвае вядучы «Les Guignols de l'info», якога завуць PPD. PPD — гэта не толькі пародыя на Патрыка Пуавра д'Арвор — культавага вядучага выпускаў навінаў Першага канала французскага тэлебачання, аднак таксама сродак пажартаваць з усяго цэху тэлевядучых. Напрыклад, калі ў праграме з'яўляецца лялька дзеючага прэзідэнта, PPD, што называецца, намагаецца казаць яму ў такт, як часта робяць журналісты.

Таксама PPD уласцівая пафасная лексіка, часам характэрная для цяперашняй тэлежурналістыкі. Некаторыя з яго тырад сталі культавымі. Напрыклад: «Добры вечар, гэтая праграма будзе цалкам прысвечана падзеям», «Мы ў 2005 годзе, і як добра, што вы яшчэ верыце тэлевізару», «Добры вечар. Нагадваю, што вы глядзіце тэлебачанне з рэкламай». Візітоўка PPD — словы: «A tchao. Bonsoir» (гэта можна перакласці як «Чао. Добры вечар), якія гучаць напрыканцы кожнага выпуску.

> **15**
> **мільёнаў еўра складае гадавы бюджэт праграмы «Les Guignols de l'info»**

Як часта бывае з паспяховымі сатырычнымі праектамі, яны не толькі смяюцца з палітыкаў, аднак паступова самі пачынаюць рабіць палітыку. Лічыцца, што «Les Guignols de l'info» шмат у чым паўплывала на фармаванне адмоўнага стаўлення французаў да першай вайны ў Персідскім заліве, калі ўвялі ў праграму камічны персанаж ваяўнічага амерыканца Сільвестра (пародыя на Сільвестра Сталонэ). У той час шоу глядзелі 14 працэнтаў усёй французскай аўдыторыі. Некаторыя журналісты сцвярджаюць, што марыянеткі паўплывалі на выпікі прэзідэнцкіх выбараў 1995 года, калі гарантам V рэспублікі стаў Жак Шырак. Лялька Шырака атрымалася настолькі яскравай, што міжвольна выклікала да яго сімпатыю. Палітолагі абсалютна сур'ёзна сцвярджаюць, што «Les Guignols de l'info» так ці інакш фармуе палітычныя сімпатыі ў 14 працэнтаў французскага электарату. Не ведаю, ці гэта праўда, аднак шоу напярэдадні выбараў сапраўды збірае вялізарную колькасць гледачоў.

За 26 гадоў існавання «Les Guignols de l'info» іх прадукцыя станавілася ўсё даражэй і складаней. Па стане на 2015 год бюджэт праграмы складае каля 15 мільёнаў еўра. На гэтыя сродкі ўтрымліваецца штат у 300 чалавек, з якіх толькі 30 чалавек непасрэдна кіруюць марыянеткамі. Іншыя займаюцца здымкамі, тэхнікай, маніторынгам прэсы, мантажам, стварэннем і пастаноўкай скетчаў і г.д. Праца над праграмай пачынаецца зранку, калі група сцэнарыстаў праглядае прэсу і прадумвае 5–6 сюжэтаў. Пасля гэтага пачынаецца падрыхтоўка да здымкаў праграмы а 20-й пасля выпуску навінаў. Цікава, што «Les Guignols de l'info» ідзе выключна ў прамым эфіры.

Нягледзячы на мегапапулярнасць французскіх лялек, крызіс не пашкадаваў шоу. 3 ліпеня дырэкцыя каналу «Canal+» прызналася, што не мае сродкаў падтрымліваць цяперашні бюджэт праграмы. Каб захаваць «Лялек», прапануецца перавесці іх на штотыднёвы фармат. Аднак такі варыянт не задавальняе публіку, якая патрабуе ад дзяржавы тэрмінова ўмяшацца ў гісторыю і выратаваць помнік французскага ТБ. Дзяржаўны Першы канал заявіў, што, быццам, не супраць уключыць «Les Guignols de l'info» ў сетку сваіх праграм, аднак супраць гэтага «Canal+», які мае аўтарскія правы на марыянетак. Таксама ў барацьбу ўключыліся абаненты каналу, за прагляд якога трэба плаціць. Выданне «Liberation» піша, што з 5,6 мільёна абанентаў «Canal+» 2 мільёны рэгулярна глядзяць шоу PPD.

Нельга таксама забываць, што ў Францыі вельмі моцныя прафсаюзы, і стваральнікі праграмы могуць заблакаваць закрыццё шоу. Левыя партыі ўжо падключыліся ў кампанію абароны лялек. Так, лідар партыі «Левыя» лічыць, што за закрыццём «Les Guignols de l'info» стаіць былы прэзідэнт Нікаля Сарказі, з якога на праграме ў часы яго прэзідэнцтва шмат смяяліся. Вядома, што адзін з уладальнікаў «Canal+» — асабісты сябра экс-прэзідэнта.

Ці атрымаецца ў французаў выратаваць лялек, мы дакладна даведаемся напрыканцы жніўня, калі звычайна пачынаецца новы сезон.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Крысцін Лагард



Нечакана для ўсіх у Францыі з'явілася ідэя высунуць дырэктара Міжнароднага валютнага фонду, самую ўплывовую жанчыну на планеце па версіі прэсы, на пасаду прэзідэнта ў 2017 годзе. Лагард, якой зараз 59 гадоў, як сведчаць сацыялагічныя даследаванні, сапраўды выклікае сімпатыю ў шматлікіх французаў. Прычым рост інтарэсу да Лагард адбываецца сінхронна з падзеннем сімпатый да тых палітыкаў, якія ўжо абвясцілі пра свой удзел у прэзідэнцкай кампаніі. Гэта нацыяналістка Марын Ле Пэн, сацыяліст Франсуа Аланд і галіст Нікаля Сарказі. Для апошняга прыход Лагард у французскую палітыку значыць крыж на марах вярнуцца ў Елісейскі палац. Балатавацца Лагард, хутчэй за ўсё, будзе ад партыі галістаў (у свой час яна вярнулася ў Францыю з ЗША, дзе зрабіла кар'еру юрыста, менавіта па запрашэнні прэм'ера-галіста Жана-П'ера Рафарэна). Сама Крысцін Лагард пакуль асцярожна каментуе ідэю пайсці ў прэзідэнты. На думку экспертаў, яна чакае, чым скончыцца гісторыя з даўгамі Грэцыі, ад выніку якой будзе залежаць імідж той жа Францыі. Цікава, што папярэднік Лагард на пасадзе дырэктара МВФ Дамінік Строс-Кан у свой час таксама планаваў пазмагацца за французскае прэзідэнцтва, аднак яго напалеонаўскія планы пахаваў сексуальны скандал.

### Ніно Бурджанадзэ



Грузінскі палітык, адзін з аўтараў рэвалюцыі ружаў, экс-дырэктар МЗС наведала Маскву, дзе зрабіла шэраг сенсацыйных заяў. У прыватнасці адзначыла, што Крым ёсць і будзе расійскім, а таксама тое, што не падтрымлівае прэтэнзіі Грузіі на Абхазію і Паўднёвую Асецію, дзе зараз створаныя марыянетачныя прарасійскія рэжымы. Адначасова Ніно жорстка прайшлася па былым палітычным саюзніку Міхаілу Саакашвілі, які цяпер працуе ў апараце адміністрацыі Парашэнкі. Маскоўскія выказванні Бурджанадзэ эксперты разглядаюць як пачатак стварэння ў Грузіі відавочна прарасійскай сілы на базе «Дэмакратычнага руху» (партыя Бурджанадзэ). Праўда, пакуль цяжка казаць пра перспектывы такой фармацыі. Сама Ніно і яе партыя выклікае сімпатыі ў 10 працэнтаў грузін. Паводле апытанняў, 75 працэнтаў грузін падтрымліваюць заходні выбар Тбілісі. Тым не менш шмат хто лічыць, што ў бліжэйшы час Масква дэманстратыўна паслабіць візавы рэжым з Грузіяй, сімвалічна звязаўшы гэта з візітам Бурджанадзэ.

### Нікола Стэрджэн



Прэм'ер-міністр Шатландыі вырашыла паказаць ненавіснай метраполіі дулю з дапамогай паляванне на ліс. Справа ў тым, што зараз у брытанскім парламенце слухаецца законапраект пра папраўкі ў закон 2004 года пра паляванне на ліс. Закон на першы погляд падаецца абсалютна прахадным. Яго ініцыятары хочуць даць фермерам права выкарыстоўваць сабак для аховы сваіх фермаў ад ліс. Фішка ў тым, што законапраект тычыцца выключна правіл палявання ў Англіі і Уэльсе. Аднак нечакана яго актыўна пачалі абмяркоўваць таксама шатландскія нацыяналісты, якія збіраюцца галасаваць супраць. Па словах Ніколы, за кошт пратэстнага галасавання яе партыя хоча пакараць прэм'ера Дэвіда Кэмерана за тое, што ён праяўляе мала павагі для шатландцаў. Выхадка шатландскага прэм'ера раз'юшыла брытанскі ўрад, паколькі шмат кансерватараў таксама супраць усіх фермаў палявання на ліс, і закон можа не прайсці. Пазіцыя SNP таксама выклікала новую порцыю дэбатаў сярод торы пра неабходнасць забараніць шатландскім дэпутатам галасаваць за законы, якія напісаныя для Уэльсу і Англіі. У сваю чаргу Нікола Стэрджэн прыстрашыла ўладу правядзеннем новага рэферэндуму аб незалежнасці Шатландыі ў адказ на магчымае абмежаванне права голасу шатландскіх дэпутатаў Палаты абшчын.



З сынам прэзідэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка Альгердам. Парыж, 2012 г.

# Наталля Гардзіенка: Захацелася вярнуць імёны

Кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка ўжо паспела трапіць у гісторыю сама, калі стала першай кіраўніцай створанай нядаўна пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў секцыі нон-фікшн, то бок непрыдуманай літаратуры. Але не толькі гэта з'яўляецца яе дасягненнем. Сёння Наталля Гардзіенка — адзін з найбольш дасведчаных знаўцаў беларускай эміграцыі.

**Аляксандр Тамковіч**

## Дзяцінства

З 6 ліпеня 1977 года і да вяселля мяне называлі Наталляй Арловай. Нарадзілася я ў Мінску. Маці, Таццяна Георгіеўна, — медык, родам таксама з Мінску, але яе бацькі паходзілі са Случчыны, з-пад Лядна. Землякі Мікалая Статкевіча.

А бацька, Сяргей Віктаравіч, паходзіць з Круглага Магілёўскай вобласці. Доўгі час ён быў вайскоўцам, скончыў вайсковую вучэльню, якую ў Мінску называюць ВІЗРВ. Калі мая маці вучылася ў мединстытуце, яны і пазнаёміліся.

Пасля заканчэння вучылішча бацьку накіравалі служыць у войскі супрацьпаветранай абароны на Далёкі Усход, дакладней, на самую мяжу з Кітаем у Усурыйскі раён. На дзесяць гадоў.



Маленькая Наташа Арлова. 1982 г.

Калі мне споўнілася тры, мама павезла мяне да таты. Там пайшла я ў дзіцячы садок. На Далёкім Усходзе нарадзіўся мой брат Віктар, які зараз жыве ў ЗША, працуе праграмістам.

Калі надышоў час ісці ў школу, бацькі вырашылі, што мне лепш вярнуцца ў Мінск, дзе жылі бацькі маёй маці: мая бабуля Ганна Аляксандраўна, дзядуля Георгій Рыгоравіч і цётка Ала Георгіеўна. Так і зрабілі.

У першы клас я пайшла ў школу № 150, што ў мікараёне Масюкоўшчына. А тата з мамай разам з братам яшчэ два гады былі на Далёкім Усходзе.

У 1986 годзе бацьку накіравалі ў Еменскую Арабскую Рэспубліку, якую да аб'яднання называлі Паўночным Еменам. У трэцім класе я вучылася ў тамтэйшай сталіцы Сане, у школе пры савецкай амбасадзе. Гэта была цікавая, надзвычай інтэрнацыянальная школа.

Бацькава вяртанне з Емена супала з развалам Савецкага Саюза, і ён вырашыў застацца ў Беларусі і працягваць службу ў Лідзе, дзе ў школе №15 я вучылася восьмы і дзявяты класы.

Бацька не імкнуўся да вялікіх зорачак на пагонах (напэўна, войскі супрацьпаветранай абароны — не самая лепшае месца для кар'ернага росту ўвогуле), таму зволіўся на пенсію ў сціплым чыне капітана. Гутарка, канечне, пра ваенную пенсію, бо ён і па наш дзень працуе інжынерам-электрыкам на хлебазаводзе ў Мінску.

Як бачна, сярэдніх школаў мне давялося змяніць даволі багата, што, як вядома, магло негатыўна адбіцца на ўзроўні адукацыі. На шчасце, гэтага не адбылося, пра што сведчыць паступленне ў знакаміты Ліцэй БДУ.



З маці, бацькам і братам. Сана (Емен), 1987 г.

## Ліцэй БДУ

Гэта быў 1992 год. Паступіць у ліцэй заўсёды цяжка. Тым больш для дзяўчынкі з беларускай правінцыі. Зразумела, чаму ніхто з блізкіх у мой поспех асабліва не верыў. У мяне ж была моцная матывацыя — я вельмі хацела вярнуцца з Ліды ў Мінск.

Паступіла я ў ліцэй (на маё глыбокае перакананне) перш за ўсё дзякуючы настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Наталлі Іванаўне Венсковіч, якая мяне для гэтага спецыяльна рыхтавала. І ішла я туды ў першую чаргу як будучы філолаг.

Іспыты ў профільны клас былі адпаведныя: беларуская мова і літаратура (вусна), руская мова (пераказ) і гісторыя Беларусі (вусна). Конкурс быў вялікі, каля 6 чалавек на месца, што мяне зусім не дзівіла.

А восьтыя, хто прымаў іспыты, былі крыху здзіўлены ўзроўнем ведаў «дзяўчынкі з правінцыі»… У выніку я паступіла і скончыла ліцэй з залатым медалём.

Клас у нас быў гісторыка-філалагічны. Нягледзячы на тое, што я паступала як філолаг, падчас вучобы настаўнікі мяне «пераарыентавалі» на гісторыю.

## Універсітэцкая гісторыя

З ліцэя адразу пайшла на гістфак БДУ. Вучылася на беларускамоўным аддзяленні. У мяне ніколі не было праблем з беларускай мовай, хаця статус дачкі вайскоўца дазваляў ёй не вучыць. Калі тая з'явілася сярод прадметаў навучання, я якраз з'ехала ў Емен, а па вяртанні ў беларускую школу настаўніца мне сказала: «Табе ж нескладана будзе вучыць беларускую мову, а ў хуткім часе яна будзе паўсюль патрэбная? Можа ўсё ж будзеш яе вучыць?» Так я і зрабіла.



Мінск, 2012 г.

Як у шмат якіх гарадскіх дзяцей, у мяне былі родныя на вёсцы. Практычна кожнае лета праводзіла ў вёсках ці на Случчыне, ці на Магілёўшчыне, таму беларускую мову чула. Яна мне падабалася заўсёды (нават у адпаведных алімпіядах удзельнічала), і з ёй, паўтару, не было ніякіх праблем. Прафесійнае маё гістарычнае жыццё ад універсітэта было звязана з беларускай мовай. У пэўны момант перайшла на яе і ў сям'і, гэта адбылося ўжо пасля нараджэння сына Яраслава.

Шчыра кажучы, да вучобы ў ліцэі ніколі не думала, што стану гісторыкам. Гісторыя мне не вельмі падабалася, бо школьны настаўнік быў не самым лепшым…

Калі ж паступала на гістфак, меркавала, што буду спецыялізавацца на сусветнай гісторыі, аднак даволі хутка арыенцір зноў кардынальна змяніўся. Ужо на першым курсе я пайшла на кафедру гісторыі Беларусі Старажытнага часу і Сярэдніх вякоў.

Першыя гады ўніверсітэцкай вучобы былі даволі простымі, таму што мы, ліцэісты, мелі вельмі багаты «багаж», на якім можна было доўга трымацца. Але вялікую ролю адыгралі і выкладчыкі. Перш за ўсё, Павел Алегавіч Лойка і Уладзімір Пятровіч Емяльянчык, што і выкладалі старажытную гісторыю Беларусі. Яны настолькі «запалілі» студэнтаў беларускай гісторыяй, што значная частка курса хацела спецыялізавацца на іх кафедры. На жаль, абодва гэтыя выкладчыкі сышлі ў лепшы свет у маладым узросце.

Маім навуковым кіраўніком быў Уладзімір Пятровіч Емяльянчык. Ён быў добрым спецыялістам па беларускай гісторыі XVIII стагоддзя. Гэта і прадвызначыла маю цікавасць да таго перыяду. Ужо з трэцяга курсу я пісала па ім курсавыя работы, абараняла дыплом. А пазней і кандыдацкая дысертацыя называлася «Становішча жанчыны-шляхцянкі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVIII стагоддзі». Тэму падказала таксама нашая ўніверсітэцкая выкладчыца Алена Мікалаеўна Філатава. Яна ж вельмі падтрымлівала мяне ў працы і пры абароне.

Ва ўніверсітэце сустрэла свайго будучага мужа Алега Гардзіенку, з якім на апошнім курсе мы пабраліся шлюбам. У 2006 годзе ў нас нарадзіўся сын Яраслаў.

## Прафесійныя зігзагі

Натуральна, пасля заканчэння ўніверсітэту я пайшла ў аспірантуру. Амаль адразу. Канечне, было патрабаванне спачатку ўладкавацца на працу і толькі потым паступаць.

Па размеркаванні мяне (як мінчанку) пакінулі ў Мінску, дзе і прапрацавала ў школе настаўніцай гісторыі роўна чатыры месяцы, да таго моманту, як паступіла ў вочную аспірантуру. Мне вельмі хацелася займацца менавіта даследчыцкай працай, бо настаўніцтва здавалася не зусім маім заняткам.

Тым не менш, яшчэ да заканчэння аспірантуры і абароны дысертацыі я ўладкавалася на працу ў Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі (МАІРА — сучасная назва), то бок у тую ўстанову, што працуе з настаўнікамі, займаецца павышэннем іх кваліфікацыі.

У МАІРА я прапрацавала да канца 2010 года. Спачатку звычайным выкладчыкам, потым дэканам факультэта, а апошні год была прарэктарам па вучэбнай працы. Можна сказаць, зрабіла кар'еру, якая, што праўда, мяне зусім не цікавіла.

Да канца 2010 года ў інстытуце ніхто асабліва не цікавіўся маімі палітычнымі поглядамі і прыярытэтамі, але менавіта яны адыгралі важную ролю, калі я сыходзіла. Дакладней, сталі адной з прычын.

Як ужо казала, мяне не вельмі цікавіў настаўніцкі шлях. Не вельмі падабаліся мне і кіраўнічыя пасады. Трывала ўсё пры ўмове, што мела магчымасць займацца найбольш для мяне цікавым — даследчай працай. Але паступова часу на даследаванні станавілася ўсё меней, таму пачала шукаць варыянты, каб сысці з інстытута. Урэшце сышла не па ўласным жаданні.

Нагадаю, пры канцы 2010 года былі прэзідэнцкія выбары, і ўсё, што з імі звязана. Муж працаваў і працуе ў «Нашай Ніве», і час пасля выбараў быў даволі нервовы, мы чакалі розных непрыемнасцей у выглядзеператрусаў. Да таго ж мой бацька быў пасля выбараў на плошчы перад Домам ураду (я не была, бо сядзела з сынам)…

Словам, перад самым Новым годам кіраўніцтва інстытута вырашыла, што я ўяўляю для яго небяспеку. Справа ў тым, што я была адзіным прарэктарам, няўзгодненым непасрэдна з абласным кіраўніцтвам адукацыі. Так атрымалася ў выніку чарговай рэарганізацыі інстытута. Калі пайшлі размовы наконт апазіцыйнасці маёй сям'і, гэта

стала выглядаць небяспечным для кіраўніцтва, і рэктар прапанавала мне звольніцца. Напэўна, калі б я вельмі хацела гэтай працы, то змагалася б. Але я ўжо нудзілася там, трымаў толькі вельмі добры калектыў…

У выніку 30 снежня 2010 года я сышла «ў нікуды». Нягледзячы на маральную падрыхтаванасць, самі абставіны зрабілі сыход даволі балючым.

Паўгода жыла, як кажуць зараз, дармаедкай, пакуль не ўладкавалася выкладаць у прыватную навучальную ўстанову — Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва. Так я зноў стала выкладчыцай, толькі ўжо не для настаўнікаў, а для студэнтаў. Праз тры гады выкладання мая афіцыйная прафесійная кар'ера зрабіла чарговы зігзаг — мяне запрасілі ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва для працы з беларускімі замежнымі фондамі. За 1990-я і 2000-я гады тут назбіралася даволі шмат матэрыялаў, якія перадавалі беларусы замежжа, аднак не было спецыяліста, хто б мог з імі працаваць. Так я стала архівістам, і, здаецца, нарэшце знайшла тое месца, дзе сапраўды хочацца працаваць.

## Гісторыя з эміграцыяй

Вельмі добра памятаю, што, калі на гістфаку мы здавалі іспыт па пасляваеннай гісторыі Беларусі, я надта не хацела, каб мне трапілі пытанні па беларускай дыяспары. З-за фрагментарнасці інфармацыі гэтая тэма была для мяне цёмным лесам. Тады я літаральна малілася, каб мне не дасталася тое, чым займаюся сёння.

У змене стаўлення зноў, як часта ў маім жыцці, адыграла ролю асоба. На пачатку 2000-х гадоў я пазнаёмілася з архівістам, бібліятэкарам, даследчыкам беларускай эміграцыі з Нью-Ёрка Лявонам Юрэвічам. Ад таго часу пачалося супрацоўніцтва і сяброўства. Калі скончыла сваю дысертацыю, XVIII стагоддзе стала мне не вельмі цікавым, прыйшла так званая «стомленасць ад матэрыялу». Нехта з калегаў слушна заўважыў: гісторыку трэба праз пэўны час змяняць або тэму, або перыяд даследаванняў, бо «прытупляецца» ўспрыманне матэрыялу. Для мяне XVIII стагоддзе змянілася на XX, на тэму эміграцыі.

На пачатку 2000-х гадоў мы рыхтавалі да друку «Хроніку беларускага жыцця на чужыне» Міколы Панькова. Гэта храналагічныя запісы (памесячныя і нават падзённыя) пра тое, што адбывалася ў асяродках беларускага замежжа на Захадзе, пачынаючы ад канца 1940-х гадоў і да пачатку 1980-х. Я дапамагала рабіць іменны паказнік. Вельмі ўразіла, што шмат хто з некалькіх тысяч узгаданых прозвішчаў былі цалкам невядомыя для нас, складана было нават расшыфроўваць ініцыялы. Стала крыўдна за гэтых людзей, захацелася вярнуць імёны.

Паколькі мая дысертацыя была прысвечаная жанчынам, то і тут я вырашыла аддаць прыярытэт менавіта жанчынам на эміграцыі. І калі пра беларускую эміграцыю наогул было даволі мала інфармацыі, то пра жанчын — амаль не было.

Дзякуючы Лявону Юрэвічу і Віктару Кавалеўскаму (беларусу з Аўстраліі) я пачала збіраць адрасы беларускіх жанчын, да якіх можна было б звярнуцца, каб запісаць іх успаміны.

Было напісана вельмі шмат лістоў у Канаду, ЗША, Аўстралію. Хтосьці адгукнуўся, як Раіса Жук-Грышкевіч з Канады, з якой у нас наладзілася ліставанне. Але найбольш актыўнымі аказаліся беларусы Аўстраліі, прычым, менавіта мужчыны. Яны вырашылі, што будзе лепш не адказваць на мае пытанні лістамі, а запрасіць мяне туды, каб я на месцы паразмаўляла з іх жанчынамі і запісала ўсё, што хачу. Папярэдне, канечне, яны высветлілі, хто я такая, зрабілі адпаведныя даведкі ў Згуртаванні беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Так нечакана праз месяц пасля абароны дысертацыі я з'ехала на чатыры тыдні да аўстралійскіх беларусаў. Было гэта ўвесну 2003 года.

Тыдзень я правяла ў Мельбурне, тыдзень — у Адэлаідзе, два тыдні — у Сіднеі. Жыла ў сем'ях беларускіх эмігрантаў. Яны арганізоўвалі сустрэчы з іншымі беларусамі. Я запісала тады дзясяткі інтэрв'ю. Дакладней — паспела запісаць. На жаль, шмат удзельнікаў тых размоў ужо адышлі ў іншы свет.

Аўстралійскія ўспаміны сталі асноўнай часткай маёй першай кнігі. Але ў працэсе працы над ёй стала зразумела, што пісаць выключна пра жанчын не выпадае — пра беларусаў Аўстраліі наогул амаль нічога не было вядома ў Беларусі. У выніку, кніга была прысвечаная і беларусам, і беларускам Аўстраліі. Яна пабачыла свет у 2004-м і стала першай маёй прыступкай у вывучэнні беларускай эміграцыі.

У працэсе працы над кнігай у мяне наладзіліся добрыя стасункі са Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», і паступіла прапанова працягнуць працу над тэмай. Тады беларусы Брытаніі шукалі некага, каб папрацаваў з іх архівамі, і я паехала туды. Так з'явілася другая кніга ў 2010 годзе. Потым, якраз у перыяд вымушанага дармаедства, я змагла папрацаваць з архівамі канадскіх беларусаў, на падставе якіх плануецца яшчэ адна кніга. Таксама разам з Лявонам Юрэвічам за апошнія гады мы выдалі ўжо дзве кнігі пра Раду БНР на эміграцыі і рыхтуем трэцюю.

Цікавасць да эміграцыі адлюстравалася не толькі ў кнігах. Яшчэ калі ішла праца над кнігай пра беларусаў Аўстраліі, паступіла прапанова паўдзельнічаць у выданні альманаха «Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва». Гэты альманах пачаў выдавацца яшчэ ў 1950-х у Нью-Ёрку, калі інстытут быў толькі заснаваны.

Пачынаючы з 2004 года да сёння я рэдагую «Запісы», а выдаюцца яны штогод.

Ад самага пачатку гэтай працы беларусы замежжа, найперш з БІНіМа, перадалі вельмі шмат каштоўных дакументаў. З часам наша кватэра стала нагадваць музей, таму я ўсё перанакіравала ў больш адпаведнае месца — Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, той самы, дзе цяпер працую. Тут мы стварылі своеасаблівы Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа, які можа займацца збіраннем матэрыялаў больш эфектыўна. Дзякуючы нашай працы ў мінулым годзе ў Беларусь з ЗША сярод іншага былі вернутыя аўтографы Янкі Купалы і Уладзіміра Жылкі.

**Падчас працы над кнігай наладзіліся стасункі са Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», і паступіла прапанова працягнуць працу над тэмай**

Цікавасць да беларускага замежжа ў мяне шматбаковая. І выставу неяк удалося арганізаваць, і інтэрв'ю запісваюцца, і архівы збіраюцца, і секцыю на Кангрэсе даследчыкаў Беларусі ў Коўна арганізоўваю. Даволі шмат даводзіцца займацца падрыхтоўкай да друку розных эміграцыйных ці эміграцыязначных тэкстаў. Багата кніг было выдадзена ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» Згуртавання беларусаў свету.

У 2010 годзе пачалося таксама супрацоўніцтва з выдавецтвам «Лімарыус». З'явілася ідэя стварыць серыю, дзе б выдаваліся ўспаміны беларускіх эмігрантаў. Аляксандр Фядута прапанаваў пашырыць ініцыятыву да выдання наогул беларускіх мемуараў. Так паўстала «Беларуская мемуарная бібліятэка». У 2011 годзе амаль адначасова выйшлі дзве кнігі: «Успаміны пасла» Аляксандра Стагановіча, падрыхтаваныя гісторыкам Аляксандрам Пашкевічам, і «Успаміны» Яўстафія Янушкевіча, што былі падрыхтаваныя Вольгай Гарбачовай. І серыя атрымала жыццё. Сёння ў ёй выйшла ўжо больш за дзясятак кніг, сярод якіх значная частка «эміграцыйных».

Тэма эміграцыі мне даволі шмат дала. Але, бадай, самае каштоўнае — вялікая колькасць цікавых знаёмстваў з беларусамі (і не толькі) з розных краінаў. Асабліва важнымі асобамі для мяне сталі айцец Аляксандр Надсан, які дапамагаў у працы над кнігай пра беларусаў Вялікабрытаніі і ў размовах з якім прайшло багата гадзінаў, Вітаўт Кіпель, што падтрымлівае, бадай, усе мае эміграцыйназначныя ініцыятывы і чый прыклад актыўнай жыццёвай пазіцыі дае і мне сілы для працы, Янка Запруднік, што актыўна папаўняе нашыя архіўныя фонды, дапамагае матэрыяламі, Юры Туронак, чыя даследчая праца для мяне заўсёды будзе прыкладам дакладнасці і сумленнасці… Можна згадваць дзясяткі імёнаў беларусаў Аўстраліі, Брытаніі, ЗША, Канады, Польшчы ды іншых краінаў, з кім давялося спаткацца, якія пакінулі след у маім жыцці. Гэтыя сустрэчы не толькі ўзбагацілі мае веды пра эміграцыю, але і шмат далі ў разуменні каштоўнасці міжчалавечых адносінаў.


З прафесарам Сіднейскага ўніверсітэта Вольгай Качан. Сідней, 2003 г.

Нягледзячы на тое, што ёсць яшчэ багата планаў і даследчых, і выдавецкіх, і іншых, сёння я задаволеная тым, што ўжо ўдалося зрабіць.

Пэўная ідэалізацыя эміграцыі, якая была ўласцівая 1990-м гадам, па сутнасці, знікла. Тады яна была цалкам абгрунтаванай, бо тэма эміграцыі толькі-толькі адкрывалася. Але сёння створаныя падставы для сапраўды сур'ёзных даследаванняў, і для разумення, што беларускае замежжа шмат у чым ёсць адлюстраваннем грамадства метраполіі, там дзейнічаюць тыя самыя механізмы, існуюць тыя самыя праблемы. Вельмі важна ўсведамляць, што і ў Беларусі, і ў замежжы жывуць тыя ж беларусы, яны — часткі адзінай нацыі, складнікі агульнай нацыянальнай гісторыі і культуры.

## Гісторыя з літаратурай

Нягледзячы на тое, што ўжо больш за дзясятак гадоў я актыўна працую з рознымі тэкстамі, багата пішу, але доўгі час не думала пра сябе менавіта як пра пісьменніка. Штуршок прыйшоў звонку. Восенню пазамінулага года мне патэлефанавалі з Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП) і прапанавалі з'ездзіць у Швецыю, паглядзець, як пры тамтэйшым пісьменніцкім саюзе працуе секцыя нон-фікшн.

Зразумела, пасля такой прапановы я стала цікавіцца, у чым сутнасць літаратуры нонфікшн, бо было гэта для мяне адносна новым паняццем. Вырашыла стаць сябрам СБП.

Пазней даведалася, што з гэтым былі праблемы, бо далёка не ўсе пісьменнікі лічаць нонфікшн сапраўды літаратурай…

У Швецыі я паглядзела, як усё працуе там, пазнаёмілася з кіраўніцай секцыі нон-фікшн Анэт Розэнгрэн. У часе гэтай паездкі ўзнікла ідэя стварыць падобную секцыю і ў нас. Старшыня СБП Барыс Пятровіч ідэю шчыра падтрымаў. У выніку ўвесну мінулага года секцыя непрыдуманай літаратуры пры СБП была створана, і мяне абралі яе кіраўніцай.

Пакуль значнымі вынікамі працы пахваліцца не магу. Напэўна, найбольш важным стала заснаванне прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў у галіне непрыдуманай літаратуры, якую мы сёлета ўпершыню ўручылі. У гэтай прэміі спалучылася тое, што мяне на сёння найбольш цікавіць: тэма эміграцыі і літаратура нон-фікшн. Спадзяюся, у абедзвюх галінах яшчэ атрымаецца нешта карыснае зрабіць.

**Аўтар удзячны культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!» за інфармацыйную падтрымку**


З айцом Аляксандрам Надсанам. Лондан, 2005 г.


З Алегам Шнэкам. Мельбурн, 2003 г.


На канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура». Чэрвень 2014 г.

# «Мерада»: крок да запаветнай мары

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Думкі пра запіс і выданне сольнага альбома бударажылі выканаўцаў з гурту «Мерада» доўгі час. І вось нарэшце альбом «Проста вер» прадстаўлены слухачам.**

Памятаю 1980–1990-я гады, калі Сціў Крамер — цяпер лідар гэтага гурта — пачынаў творчы шлях у маладым беларускім шоў-бізе ў якасці журналіста і музыканта-пачаткоўца. Ужо тады, працуючы ў гурце «Бонда» гукарэжысёрам, ён зразумеў важнасць якасці запісу, як і важнасць захавання нацыянальнай музычнай спадчыны сучаснасці.

Праз гады Сціў і Ганна Крамеры, ужо ўдзельнікі гурта «Мерада», паставілі перад сабой мэту набыць адпаведнае выканаўчае майстэрства і музычныя веды: Сціў — як гітарыст-блюзмэн і мультыінструменталіст, Ганна — як вакалістка.

Як толькі гэтая першапачатковая мэта была дасягнутая, музыкантаў захапіла звышмэта — ствараць беларускую сучасную музыку на сусветным узроўні. Крокам да мары музыкантаў гурта «Мерада» і стаў іх дэбютны дыск «Проста вер», выдадзены на фірме «ВІГМА».

Мы жывём у час, калі адбываецца новая камунікацыйная рэвалюцыя ў музычным бізнесе, калі прадзюсеры кажуць музыкантам, што эра CD скончылася, надышла эпоха інтэрнэту.

Не адмаўляючы магчымасцяў і карысці Сусветнага Павуціння, заўважым, што для паўнавартаснай раскруткі выканаўцаў не будзе лішнім і стары добры кампакт-дыск з музычным матэрыялам, над якім можна было б паразважаць, вызначыць памылкі і хібы, прэзентаваць альбом людзям, ад якіх залежыць ратацыя песень на радыё ці ў тэлеэфіры.

Так мыслілі выканаўцы з беларускага гурта «Мерада», калі вырашылі выйсці са сваім альбомам «Проста вер» да слухачоў і філафаністаў (калекцыянераў дыскаў) з інтэрнэту, дзе яны ўжо маюць дастатковую вядомасць. Ці ўдаўся гэты эксперымент музыкантам?

Першая ж кампазіцыя альбома «Проста вер» «Ваяр Святла» наводзіць слухача на сур'ёзны лад. Гэтая музыка далёкая ад сённяшняга мэйнстрыму, а створана для ўважлівага слухання і суперажывання. Кантрастная структура гэтай кампазіцыі, у якой меладычны запеў змяняецца эмацыйным прыпевам, дапамагае лепш усрыняць тэкст кампазіцыі.

Музыканты не хаваюць таго, што песня «Ваяр Святла» — гэта адказ гурту «Ляпис Трубецкой» і іх «Воину Света», але са свайго музычнага светапогляду. Своеасаблівую аўру гэтай песні ствараюць аранжыроўка і выкарыстанне шматлікіх гітар і выканаўчых прыёмаў, у вартасці якіх змогуць разабрацца і ацаніць адзінкі з тых, хто будзе слухаць кружэлку.

Такая архаічнасць гучання, недасягальная для вушэй сённяшніх аматараў «танцавальных блокбастэраў», можа саслужыць дрэнную службу выканаўцам, якія толькі ўваходзяць на айчынны музычны рынак. А ён настойліва патрабуе элементаў знаёмага большасці слухачоў гучання, рытмаў. Затое знаўцы і слухачы гітарнага «олд-скула» будуць задаволены: на запісе ёсць і акустыка, і steel-guitar, Сціў любіць граць са слэйдэрам на электрычных гітарах і іншых інструментах, у тым ліку і на рэдкім для нашай краіны электрычным «Хэманд-аргане»... Шкада, што такіх прыхільнікаў «року для дарослых» (AOR) нашмат менш, чым тых, хто гатовы ўсю рок-музыку мінулага называць «адстоем». Да гэтага варта быць падрыхтаваным сур'ёзным выканаўцам, у тым ліку і музыкантам гурта «Мерада».

Яшчэ адно нямоднае захапленне музыкантаў — фолк-рок з элементамі папулярнай у ЗША музыкі кантры і соул-спеваў. Тая песня на альбоме мае назву «Дзень народзінаў вясны». Парадокс, але калі паслухаць гэтую кампазіцыю пасля песень, напрыклад, гуртоў «KRIWI» ці «Ліцьвіны», то музыка «Мерады» падасца занадта амерыканізаванай, у якой чуваць уплывы кантры Д. Мітчэл, Д. Партан ці больш сучаснай Т. Свіфт. А вось на фоне гэтых выканаўцаў, іх мелодый і спосабы аранжыроўкі дуэта Сціва і Ганны Крамер выгадна вылучаюцца беларускім меладычным каларытам. Гэты парадокс не адмяняе абавязку сапраўдных беларускіх музыкантаў у будучым рабіць свае творы яшчэ больш нацыянальнымі па духу і змесце.

Бо, напрыклад, блізкая фолк-року ў яго квазіфэнтэзійным варыянце (вельмі пашыраным на расійскай фолк-сцэне, літаратуры і кіно) кампазіцыя «Вядзьмак» некаторыя зацікаўленыя слухачы разглядаюць як крок у бок ад беларушчыны, хоць тэкст і аранжыроўкі кампазіцыі ствараліся ў разліку на іх. Якім чынам пазбегнуць новых хібаў і ўвабраць у сваю творчасць сучасныя рысы, якія б мелі нацыянальныя карані і пазнавальны каларыт, — гэта ўжо мэта чарговага альбома.




Увогуле, для гурта «Мерада» характэрна стварэнне песень незвычайнай для айчыннай рок-сцэны тэматыкі. Маю не ўвазе песню «Цягнік», створаную ў стылістыцы road-songs (песні для тых, хто ў дарозе). Тут рытмы кантры-біта, прыгожыя гітарныя сола Сціва Крамера ствараюць атмасферу настальгіі па родным краі, з якім не параўнаецца ні адна заморская краіна і яе райскія краявіды.

Асноўным аўтарам тэкстаў альбома з'яўляецца вакалістка гурта Ганна Крамер (яна, бывае, стварае тэксты і ў суаўтарстве разам з паэткамі Н. Гулак, А. Спрынчан і лідарам гурта С. Крамерам). Аўтару блізкія розныя тэмы, але найбольш пераканаўчымі можна назваць яе радкі пра каханне. Сапраўды, у песнях «Рака кахання», «Адзіны ты», «О, няхай вандруе любоў» можна адзначыць пераканаўчыя ўзоры так званай жаночай рок-паэзіі — пранікнёнай і эмацыянальнай, якая дазваляе прадэманстраваць вакальныя магчымасці салісткі. У гэтых песнях Ганне дапамагаюць бэк-вакалісткі Г. Янушкевіч, В. Расолька, Ю. Скварцова, Г. Якаўлева і іншыя сябры гурта. А на адной з кампазіцый («Адзіны ты») побач з вакалам Ганны саліруе легендарны вусны гармонік Ігара Варашкевіча. Недзе стылістычна блізкай да папярэдняй кампазіцыі адзначу песню «Бывай», якую па аранжыроўках і гітарных пасажах Сціва можна назваць наследаваннем гурту «Бонда», да творчасці якога музыкант мае вялікі сантымент.

А вось загалоўную «Проста вер» і філасофскую «Срэбны анёл» можна назваць эмацыянальнымі полюсамі альбома. Бо ў першай з іх спляліся стары блюз і славянская мелодыка і рытм, больш характэрныя для дахрысціянскіх спеваў. Магчыма, дзякуючы гэтым якасцям кампазіцыі, песня стала хітом і была ўганаравана першым месцам на Кіеўскім блюзавым радыё-фэсце. А цяпер і беларускія слухачы могуць з ёй пазнаёміцца, прычым на роднай мове.

Калі песня «Проста вер» мае багатую рытмічную структуру і незвычайнае для гурта выкананне, то «Срэбны анёл» — кампазіцыя з найбольш узвышаным сімвалізмам, глыбокімі думкамі і развагамі, якія характэрны для чалавека, які шмат перажыў стратаў, доўгія гады падарожнічаў і жыў на чужыне і ўрэшце вярнуўся на родную зямлю.

Сэнс гэтых перажыванняў і вытокі светлага суму, якая прысутнічае ў гэтай і іншых кампазіцыях альбому становіцца зразумелым, калі слухач убачыць у буклеце фота сур'ёзнага маладога чалавека ў чорнай жалобнай рамцы і надпіс: «Альбом прысвячаецца майму сыну Алану (1980–2013)». Алан трагічна загінуў у аўтакатастрофе.

# «Год Агінскага ў Залессі»



Арцём ЛЯВА

**Чацвёрты канцэрт фэсту, прысвечанага 250-годдзю з дня нараджэння слыннага музыканта Міхала Клеафаса Агінскага, адбыўся ў залесскім палацы-музеі, што на Смаргоншчыне.**

Падборку твораў з агульнай назвай «Адкуль наш род...» выканаў ансамбль старадаўняй музыкі «Брэвіс».

Мастацкім кіраўніком фэсту з'яўляецца лаўрэат міжнародных конкурсаў, фагатыст і дырыжор, кіраўнік Ансамбля «Вытокі» Аляксей Фралоў.

У сядзібе Міхала Клеафаса на працягу юбілейнага года ў межах фэсту штомесяц, пачынаючы ад красавіка, праводзяцца ўнікальныя канцэрты лепшых беларускіх музыкаў, на якіх гучаць творы Міхала Клеафаса і яго сучаснікаў.

Да канца года ў Залессі ў межах фэсту запланавана яшчэ 5 канцэртаў:

**26 жніўня.** «Загадкі і скарбы роду Агінскіх» — канцэрт Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі.

**19 верасня.** «Духі Агінскіх» — канцэрт Духавога аркестра «CapellaAcademia», дырыжор Аляксей Фралоў.

**10 кастрычніка.** «Не толькі паланезы — новыя адкрыцці» — канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў, зоркі Беларускай оперы Іллі Сільчукова і лаўрэата міжнародных конкурсаў, піяніста Аляксандра Музыкантава.

**21 лістапада.** «Гетман-Кларнет у гасцях у Клеафаса» — канцэрт саліста-кларнетыста Нацыянальнага Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Дзяніса Парэчына і лаўрэата міжнародных конкурсаў, піяніста Аляксандра Музыкантава.

**12 снежня.** «Ля каляднага каміна Клеафаса» — Калядны канцэрт ансамбля салістаў «Вытокі» (Ірына Аўдзеева — фартэпіяна, клавесін, Павел Сурагін — флейта, лаўрэат міжнародных конкурсаў Аляксей Фралоў — фагот, мастацкі кіраўнік).

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009 г.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 947

Падпісана да друку 17.07.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.